І.І. Трацяк

# КУЛЬТУРНЫ ТУРЫЗМ

**Навучальна-метадычны дапаможнік**

*па дысцыпліне «Культурны турызм»*
*(культурна-асветніцкі турызм, культурна-пазнавальны турызм, этнакультурны турызм)*
*для студэнтаў па спецыяльнасці*
*1-89 01 01 – Турызм і гасціннасць*

Гродна
«ЮрСаПринт»
2014

**Еўрапейскі Саюз** складаецца з 28 дзяржаў-членаў, якія прынялі рашэнне пра паступовае злучэнне сваіх ноў-хаў, рэсурсаў і лёсаў. Разам, на працягу 50-гадовага перыяду росту, яны стварылі зону стабільнасці, дэмакратыі і ўстойлівага развіцця  адначасова з захаваннем культурнай дыверсіфікацыі, талерантнасці і індывідуальных свобод. Еўрапейскі Саюз гатовы дзяліцца сваімі дасягненнямі з краінамі і народамі за сваімі межамі.

УДК 379.83(078)
ББК 65.43
Т 65

*Рэкамендавана Саветам факультэта гісторыі,*
*камунікацый і турызму ГрДУ імя Янкі Купалы.*

**Рэцэнзенты:**

**Галубовіч В.У.**., дацэнт, кандыдат гістарычных навук.
**Карнялюк В.Р**.,дацэнт, кандыдат гістарычных навук.

Т65 Трацяк І.І.
**Культурны** турызм (культурна-асветніцкі турызм, культурна-пазнавальны ту рызм, этнакультурны турызм) : навуч.-метад. дапаможнік / І.І. Трацяк. – Гродна : ЮрСаПрint, 2014. – 112с
ISBN 978 -985-34489-28-4
Навучальна метадычны дапаможнік ўключае праграму, кароткі змест асноўных тэмаў курса, планы лекцыйных і практычных заняткаў, тэсты, кантрольныя пытанні, агляд літаратуры. Разлічаны на студэнтаў па спецыяльнасці «Турызм і гасціннасць», выкладчыкаў ВНУ і каледжаў, работнікаў турыстычнай сферы.

ISBN 978 -985-34489-28-4

УДК 379.83(078)
ББК 65.43

# ПРАДМОВА

Нельга уявіць турызм па-за сферай духоўнай і матэрыяльнай дзейнасці чалавека. Таму і не дзіўна, што культурная складаемая дамінуе сёння ў навейшых тэндэнцыях развіцця міжнароднага турызму. Культурны турызм сёння не толькі адзін з відаў турыстычнай дзейнасці, але яшчэ і асобная галіна бізнесу і своеасаблівая тэхналогія развіцця турызму ўвогуле і сацыяльна-культурных аб’ектаў у прыватнасці.

У сферы падрыхтоўкі кваліфікаваных кадраў, якія адпавядалі б патрабаванням на сучасным рынку турыстычных паслуг, востра стаяць пытанні аб неабходнасці фармавання, распрацоўкі і ўкараненні новых курсаў, здольных забяспечыць патрэбнымі ведамі і навыкамі спецыялістаў. Вырашэнне кадравай праблемы прафесійных менеджэраў культурнага турызму вымагае патрэбу распрацоўкі навучальна-метадычнай літаратуры на аснове інтэграцыі і экспаляцыі культурных працэсаў і з’яваў у сферы турыстычнай індустрыі, што цалкам адпавядае такім паняткам, як культурная турыстыка. Дадзенае выданне ажыццяўляе такую навучальна-практычную спробу ў гэтай галіне турызму.

Тэарэтыка-метадалагічнай асновай навучальнага дапаможніка паслужылі выданні беларускіх і расейскіх аўтараў, у прыватнасці: Локотко А.И. Историко-культурные ландшафты Беларуси. – Мн.: Бел. наука, 2006; Бутузов, А.Г. Этнокультурный туризм: Учебное пособие. – М.: КноРус, 2013; Каменец А.В. Технологии организации культурного туризма. – М.: Мосиздатинвест, 2006; Квартальнов В.А. Туризм [Электронный ресурс] : учебник / В.А. Квартальнов. – [Б.м., б.г.]. – Из содерж.: Культурный или познавательный туризм. - URL: http://www.kmvline.ru/lib/turizm/33.php (13.03.09).; Сущинская М. Д. Культурный туризм: учебное пособие. – СПб.: Изд-во СПб ГУЭФ, 2010.

У навучальным працэсе некаторых ВНУ Рэспублікі Беларусь прапануецца курс пад назовам «Культурна-асветніцкі турызм», альбо «Культурна-пазнавальны турызм». У прынцыпе істотнай розніцы тут няма – усе падвіды культурнага турызму маюць асветніцкі і пазнавальны характар, а культуру ўвогуле нельга ўявіць па-за асветніцка-пазнавальным зместам. Праўда, тэрмін *культурна-пазнавальны* турызм можна разгля-

даць і як неапраўданае звужэнне магчымасцей культурнага турызму ў межах толькі пазнавальных (павярхоўна-азнаямляльных) яго функцый; у такім выпадку прафесійныя і спецыялізаваныя функцыі культурнага турызму застаюцца па-за яго зместам.

У сувязі з ростам зацікаўленасці на міжнародным турыстычным рынку этнакультурнымі працэсамі і адпаведнымі магчымасцямі ў сферы этнакультурных рэсурсаў памежжа Гродзеншчыны і Беларусі ў цэлым, у дадзены навучальна-метадычны комплекс свядома ўключаецца раздзел, прысвечаны этнакультурнаму турызму, як аднаму з самастойных падвідаў культурнага турызму – у гэтым асаблівасць і спецыфіка дадзенага выдання. Звычайна этнакультурныя элементы ў турызме разглядаюцца ў кантэксце турызму культурна-гістарычнай спадчыны, але працэсы фармавання сучаснага этнакультурнага турыстычнага прадукту і патрэбы ў арганізацыі адпаведнага тура вымагаюць ад арганізатараў турызму больш спецыфічных і дыферэнцаваных падыходаў і метадаў, што і абумовіла такі зварот. Пры тым, матэрыял па этнакультурным турызме падаецца больш пашырана, з улікам магчымасцей распрацоўкі асобнага курса ў перспектыве. У прыватнасці, увага акцэнтуецца на такіх тэмах, як «Этнакультурны турызм: вызначэнне, спецыфіка, асаблівасці, віды», «Этнакультурны турыстычны патэнцыял тэрыторыі», «Спецыфіка рынку этнакультурнага турызму» і іншых.

Структура навучальна-метадычнага комплексу ўключае навучальную праграму, тэмы лекцый і практычных заняткаў з рэкамендацыяй адпаведнай літаратуры, кантрольныя тэсты, пытанні для залікаў і экзаменаў, спіс літаратуры.

Да кожнай тэмы лекцый даюцца асноўныя пытанні і скарочаны варыянт лекцый, у якім раскрываюцца асноўныя тэарэтычныя і метадалагічныя праблемы і акрэсліваецца месца лекцыі ў праграме, што дазваляе студэнтам сфармаваць патрэбнае ўяўленне пра асноўны змест і праблематыку дысцыпліны.

Для больш паглыбленага вывучэння дысцыпліны, з улікам індывідуальных інтарэсаў студэнтаў, іх зацікаўленасці канкрэтнымі праблемамі турызму, прапануюцца пытанні для самакантролю і тэсты, а напрыканцы – агульны спіс літаратуры.

Курс «Культурны турызм», з улікам тэм па этнакультурным турызме, разлічаны на 48 аўдыторных гадзін: 26 – лекцыйных і 22 – практычных (з магчымасцю самастойнага выбару тэмаў для правядзення семінарскіх заняткаў).

Выданне будзе карысным для студэнтаў дзённай і завочнай формы навучання, як у справе арганізацыі аўдыторных заняткаў, так і ў забеспячэнні самастойнага вывучэння імі дысцыпліны, выкладчыкаў ВНУ і каледжаў, а таксама для работнікаў турыстычных фірм у якасці дапаможніка пры арганізацыі і правядзенні тураў культурнай тэматыкі.

# І. НАВУЧАЛЬНАЯ ПРАГРАМА

## 1.Тлумачальная запіска

### *1.1.Характарыстыка навучальнай дысцыпліны.*

Прадмет «Культурны турызм» дае магчымасці пазнаёміцца з асновамі тэорыі і практыкі культурнага турызму, фарміраваннем культурнага турыстычнага прадукту і падачы яго на турыстычны рынак.

### *1.2. Роля і месца дысцыпліны ў сістэме падрыхтоўкі спецыялістаў.*

Прадмет «Культурны турызм» з'яўляецца адным з профільных прадметаў, які прапануецца студэнтам у сёмым семестры навучання.

### *1.3.Сувязь з іншымі дысцыплінамі навучальнага плана.*

Прадмет »Культурны турызм» больш паглыблена засяроджваецца на пытаннях культурных турыстычных рэсурсаў (дысцыпліны «Турыстычныя рэсурсы»), «Сусветная культура», «Культура і мастацтва Беларусі», «Гісторыя беларускай культуры» і праблемах фармавання і маркетынгу культурнага турыстычнага прадукту (дысцыпліны «Тураперэйтынг» і «Маркетынг»).

### *1.4. Мэты і задачы навучальнай дысцыпліны.*

Фармаванне цэласнага ўяўлення, ведаў, навыкаў тэорыі і практыкі культурнага турызму. Азнаёміць з асноўнымі палажэннямі, методыкай і прынцыпамі фармавання і рэалізацыі прадукту культурнага турызму.

Задачы курса: падрыхтоўка спецыялістаў у сферы арганізацыі турыстычнага сервісу, здольных свабодна валодаць базавымі прынцыпамі, паняткамі і тэзісамі культурнага турызму, як ў сістэме навучальнага працэсу, так і ў практычнай дзейнасці.

### *1.5. Патрабаванні да кампетэнтнасці.*

У выніку вывучэння дысцыпліны студент павінен

– *ведаць:*

1) тэрміналогію;

2) сутнасць, структуру і змест работы ў сферы культурнага турызму;

3) спецыфіку, кірункі і метады арганізацыі тура адпаведна відам культурнага турызму.

*– умець:*

1) фармаваць культурны турыстычны прадукт, праводзіць арганізацыйную працу ў сферы маркетынгу, сервісу і гасціннасці.
2) валодаць навыкамі арганізацыі культурнай турыстычнай дзейнасці, сервісу і методыкай рэалізацыі культурнага тура.

*1.6. Метады (тэхналогіі) навучання – комплексны.*

У працэсе навучання выкарыстоўваюцца традыцыйныя метады: лекцыя, семінарскія заняткі, выступленні студэнтаў. Формай кантролю з'яўляюцца іспыты і залік.

У адпаведнасці з навучальным планам на вывучэнне дысцыпліны адведзена 48 гадзін, з іх аўдыторных – 48 г.

Прыкладнае размеркаванне аўдыторнага часу:

– лекцыі – 26 гадзін;
– лабараторныя заняткі;
– семінары – 22 гадзіны.

## 2.Прыкладны тэматычны план

| № п/п | Назвы тэмаў і раздзелаў | Колькасць аўдыторных гадзін | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Усяго | Лекцыі | Практычныя (семінарскія) заняткі | Лабаратор-ныя заняткі | Кіруючая (кантра-люючая) самастой-ная праца студэнта |
| **1** | **2** | **3** | **4** | **5** | **6** | **7** |
| 1. | Раздзел 1.<br>Уяўленне пра культурны турызм | 10 | 6 | 4 | | |
| 2 | Тэма 1.1.Культура як фактар турыстычнай матывацыі | | 2 | | | |
| 3. | Тэма 1.2.Культурны турызм: асаблівасці і тэндэнцыі развіцця | | 2 | 2 | | |
| 4. | Тэма 1.3.Рэсурсы культурнага турызму | | 2 | 2 | | |
| 5. | Раздзел 2.<br>Віды культурнага турызму | 10 | 6 | 4 | | |
| 6 | Тэма 2. 1.Культурна-гістарычны, альбо турызм спадчыны | | 2 | 2 | | |
| 7 | Тэма 2.2. Іншыя віды культурнага турызму (тэматычны, арт-турызм, падзейны, турызм уражанняў, крэатыўны, экакультурны) | | 4 | 2 | | |
| 7. | Раздзел3.<br>Этнакультурны турызм | 8 | 4 | 4 | | |
| 8. | Тэма 3.1.Этнакультурны турызм: асаблівасці, спецыфіка, віды | | 2 | 2 | | |
| 9. | Тэма 3.2. Спецыфіка рынку, умовы і тэндэнцыі развіцця энакультурнага турызму | | 2 | 2 | | |
| 11 | Раздзел 4.<br>Культурны прадукт для турызму | 12 | 6 | 6 | | |
| 12 | Тэма 4..1.Фармаванне прадукту культурнага турызму | | 2 | 2 | | |
| 13 | Тэма 4.2.Асаблівасці і элементы вытворчасці культурнага прадукту | | 2 | 2 | | |
| 14 | Тэма 4.3.Аналіз вытворчасці і стратэгія развіцця культурнага турпрадукту | | 2 | 2 | | |
| 15 | Раздзел 5.<br>Рынак культурнага турызму | 8 | 4 | 4 | | |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 16 | Тэма 5.1.Сегментацыя рынку культурнага турызму | | 2 | 2 | | |
| 17 | Тэма 5.2.Асаблівасці рынку культурных прадуктаў для турызму | | 2 | 2 | | |
| 18 | Усяго | 48 | 26 | 22 | | |

# 3. Змест навучальнага матэрыялу

## **Раздзел 1.** Уяўленне пра культурны турызм

### *Тэма 1.1. Культура як фактар турыстычнай матывацыі*

Культура і турызм: агульнае ўяўленне. Жанравыя адметнасці культуры ў фармаванні турыстычнага інтарэсу. Азначэнне тэрмінаў і паняткаў культурнага турызму. З гісторыі развіцця культурнага турызму. Функцыянальная роля культурнага турызму. Узроўні культурнага турызму.

### *Тэма 1.2. Культурны турызм: асаблівасці і тэндэнцыі развіцця*

Асаблівасці міжнароднага культурнага турызму. Фактары і ўмовы развіцця культурнага турызму. Тэндэнцыі развіцця культурнага турызму. Характарыстыка культурных турыстаў.

### *Тэма 1.3. Рэсурсы культурнага турызму*

Культурныя помнікі і аб’екты. Сістэматызацыя рэсурсаў культурнага турызму. Практыка выкарыстання культурных рэсурсаў. Базавыя крытэрыі аб’ектаў культуры. Музеі і постмузейныя турыстычныя практыкі.

## **Раздзел 2.** Віды культурнага турызму

### *Тэма 2.1. Культурна-гістарычны, альбо турызм спадчыны*

Сістэматызацыя відаў культурнага турызму. Аб’екты і з’явы турызму культурнай спадчыны. Культурна-гістарычныя рэсурсы турызму. Ацэнка культурна-гістарычных рэсурсаў. Асаблівасці і тэндэнцыі ту-

рызму культурна-гістарычнай спадчыны. Новыя тыпы культурна-гістарычных аб’ектаў.

*Тэма 2.2. Іншыя віды культурнага турызму* (тэматычны, арт-турызм, падзейны, турызму ўражанняў, крэатыўны, экакультурны)

## **Раздзел 3.** Этнакультурны турызм

### *Тэма 3.1. Этнакультурны турызм: асаблівасці, спецыфіка, віды*

Уяўленне пра этнакультурны турызм. Этнакультурны турыстычны патэнцыял тэрыторыі. Віды этнакультурнага турызму: этнічны турызм, настальгічны турызм, этнаграфічны турызм, эколага-этнаграфічны турызм, этнапазнавальны, альбо этна-экскурсійны турызм, антрапалагічны, альбо спосабу жыцця турызм.

### *Тэма 3.3. Спецыфіка рынку, умовы і тэндэнцыі развіцця энакультурнага турызму*

Спецыфіка рынку этнакультурнага турызму. Умовы сістэмнага развіцця этнакультурнага турызму.Тэндэнцыі развіцця міжнароднага этнакультурнага турызму. Этнакультурны турызм у Беларусі.

## **Раздзел 4.** Культурны прадукт для турызму

### *Тэма 4. 1. Фармаванне прадукту культурнага турызму*

Узроўні культурнага прадукту. Фармаванне тура яе комплекснага турпрадукту. Фармаванне прадукту на ўзроўні асобнага культурнага помніка. Матывацыі спажывання культурнага прадукту.

### *Тэма 4.2. Асаблівасці і элементы вытворчасці культурнага прадукту*

Турыстычнае ўражанне. Інтэрпрэтацыя культурных аб’ектаў. Аўтэнтычнасць культурнага прадукту. Спосабы канструкцыі культурнага прадукту.

*Тэма 4.3. Аналіз вытворчасці і стратэгія развіцця культурнага турпрадукту*

Сітуацыйны аналіз вытворчасці культурнага турпрадукту. Аналіз знешняга асяроддзя. Сістэматызацыя культурнай дэстынацыі паводле SWOT-аналізу. Стратэгія развіцця культурнага турпрадукту.

## **Раздзел 5.** Рынак культурнага турызму

*Тэма 5.1. Сегментацыя рынку культурнага турызму*

Фармаванне канкурэнтназдольнага прадукту. Крытэрыі сегментацыі рынку спажыўцоў. Сегменты па маштабах культурнай дзейнасці. Сегментацыя культурных турыстаў па выгодах. Псіхаграфічная сегментацыя турыстаў. Сацыядэмаграфічная сегментацыя турыстаў.

*Тэма 5.2. Асаблівасці рынку культурных прадуктаў для турызму*

Сістэма дастаўкі і рэкламы турпрадукту ў культурным турызме. Сучасныя патрабаванні да зместу і формы продажу культурнага прадукту. Дзейнасць маркетынгавых арганізацый. Інфармацыйныя тэхналогіі ў рэкламе турпрадукту.

# II. Тэматыка і змест лекцыйнага матэрыялу

## Тэма 1.Уяўленне пра культурны турызм

### **Лекцыя 1.** Культура як фактар турыстычнай матывацыі

1. *Культура і турызм: агульнае ўяўленне.*
2. *Жанравыя адметнасці культуры ў фармаванні турыстычнага інтарэсу.*
3. *Азначэнне тэрмінаў і паняткаў культурнага турызму.*
4. *З гісторыі развіцця культурнага турызму.*
5. *Функцыянальная роля культурнага турызму.*
6. *Узроўні культурнага турызму.*

#### *1. Культура і турызм: агульнае уяўленне.*

Культура – сукупнасць матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей (артэфактаў), створаных чалавецтвам у працэсе гістарычнага развіцця. Культура – гэта яшчэ і традыцыйны спосаб мыслення, паводзінаў і ўзаемадзеянняў людзей. У гэтым сэнсе культура ёсць вынік навучання, г.зн. мадэлявання паводзін чалавека ў канкрэтных абставінах і асяроддзі.

Важна мець уяўленні пра такія паняткі, як *культура матэрыяльная і духоўная, культура і цывілізацыя, культура сусветная і нацыянальная, культура – як узровень дасканаласці народу*.

Нацыянальныя здабыткі і адметнасці ў культуры, эталонныя ўзоры, шэдэўры і дасягненні заўсёды з’яўляюцца запатрабаванымі аб’ектамі турыстычнага інтарэсу. У лік такіх аб’ектаў уваходзяць як культурна-гістарычная спадчына (гістарычныя тэрыторыі, гарадзішчы, архітэктура, музеі, народныя рамёствы, фальклор, абрады, святы), так і сучасныя праявы творчасці і дзейнасці людзей (мастацкая культура, жывапіс, музыка, тэатр, кіно, кухня, касцюм, спосаб жыцця і г.д.).

#### *2. Жанравыя адметнасці культуры ў фармаванні турыстычнага інтарэсу.*

Найбольшую матывацыю ў турыстаў выклікаюць такія элементы культуры народа, як гісторыя і гістарычная спадчына, мастацтва, архітэктура, літаратура, навука, рэлігія, этна-нацыянальныя артэфакты.

**Гісторыя.** Паспяховае развіццё турызму ў рэгіёне можа гарантаваць наяўнасць унікальных гістарычных аб'ектаў, падзеяў, з'яваў, мемарыяльныя комплексы, помнікі і музеі, прысвечаныя войнам і ваенным падзеям, крэпасці, умацаванні і замкі, некропалі, гарадзішчы і археалагічныя раскопкі, мясціны, звязаныя са значнымі падзеямі (Мінск, Гродна, Полацк, Віскулі) і нараджэннем вядомых усяму свету людзей (Т. Касцюшка, А. Міцкевіч, І. Дамейка, Я. Карскі), гісторыя тэхнапрацэсу, прадметы этнаграфіі і элементы народнай культуры, гісторыя мастацтваў – усё гэта выклікае значную цікавасць турыстаў пры прафесійнай падачы менеджэраў на турыстычны рынак.

**Архітэктура.** Важнымі аб'ектамі турызму з'яўляецца культавае дойлідства (цэрквы, касцёлы, абарончыя храмы, кальвінісцкія зборы, сінагогі, мячэці), народнае дойлідства (хаты, гумны, лямусы, свіраны, паветкі), замкі, палацы, вакзалы, адміністрацыйныя забудовы, сучасныя інжынерна-будаўнічыя канструкцыі і інш. Турыстычныя маршруты: «Замкі Беларусі», «Шляхам драўлянага дойлідства», «Беларуская готыка», «Беларускае барока», «Гарадзенскае барока». «Гарадская архітэктура», «Слядамі яўрэйскай архітэктуры», інш.

**Фальклор.** Беларускі фальклор адзін з багацейшых у свеце: народныя танцы, песні, музыка, гульні, абрады і святы можна выкарыстаць у якасці анімацыі і ўпрыгожыць культурную праграму тура. Фальклор можа быць і як адзін з дамінуючых матываў мерапрыемстваў, да прыкладу, міжнародны фестываль нацыянальных культур у Гродна. У шэрагу народаў Афрыкі і Паўдн. Амерыкі вялікай папулярнасцю ў турыстаў карыстаюцца навучальныя практыкі па этнічных танцах.

**Народныя рамёствы**. Шматлікія прадметы побыту, жылля і працы чалавека ў выніку тэхнапрагрэсу страцілі сваё функцыянальнае прызначэнне, іх далейшы выраб спынены і яны застаюцца ў якасці рэдкіх музейных экспанатаў, да прыкладу, жалязка (прас), іншыя атрымалі новае жыццё ў якасці сувенірнай прадукцыі ў выніку абуджальнага інтарэсу да рэтракультуры, асабліва тыя прадметы, якія маюць дэкаратыўны характар і якія падкрэсліваюць нацыянальна-этнічныя, культурныя і прыродныя адметнасці мясцовасці. Разьба па дрэве, ганчарства, кавальства, бондар-

ства, рымарства, саломапляценне, ткацтва, выцінанка і іншыя рамёствы сёння прыцягваюць увагу турыстаў, як сваімі адпаведнымі вырабамі, так і самім працэсам вырабу, што дае магчымасці разнастайным крэатыўным формам арганізацыі тура. У кожным раёне Гродзенскай вобласці створаны Дамы (цэнтры) народнай творчасці з магчымасцямі дэманстрацыі народных вырабаў і іх продажам.

**Выяўленчае мастацтва** – адзін з найбольш важных элементаў культуры, які здольны выклікаць пераканаўчыя дамінуючыя матывы да турыстычнай паездкі (наведванне мастацкіх музеяў, галерэяў, выставаў). Карыстаюцца попытам спецыялізаваныя туры па гісторыі мастацтва (Луўр - Парыж, Прадо - Мадрыд, Эрмітаж - Пецярбург, Нацыянальныя галерэі ў Лондане, Дрэздане і інш.), спецыяльныя фестывалі, а таксама сучасныя кірункі арт-мастацтва. Мастацкія выставы арганізуюцца на вядомых курортах, гандлёвых цэнтрах і іншых аб’ектах.

**Выканаўчае мастацтва** – музыка, танцы, опера, балет, тэатр, кіно, рок-канцэрты, поп-музыка; правядзенне адпаведных фестываляў: міжнародных, нацыянальных, рэгіянальных, мясцовых.

**Літаратура.** Літаратурныя помнікі з’яўляюцца больш абмежаванымі ў сваіх турыстычных магчымасцях у параўнанні з іншымі відамі культуры, але і яны, як і сусветнавядомыя імёны пісьменнікаў, істотна ўплываюць на стварэнне ўражання аб краіне і яе культуры, і выклікаюць адпаведныя матывацыі ў аснове арганізацыі рознапланавых турыстычных праграмаў і маршрутаў. У рамках культурнага турызму можна рэкамендаваць арганізацыю тура па мясцінах, звязаных з прозвішчамі вядомых аўтараў і герояў літаратурных твораў (кшталту еўрапейскага тура «Шляхам Дон Кіхота»), наведванне літаратурных музеяў і арганізацыю літаратурных вечароў і сустрэч з пісьменнікамі.

**Аб’екты адукацыі і навукі** (універсітэты, спецыялізаваныя музеі і выставы, бібліятэкі) могуць быць аб’ектамі паказу для турыстаў (універсітэты Кембрыдж, Оксфорд, касмічны цэнтр упраўлення палётамі ім. Джона Кенэдзі ў ЗША, Нацыянальная бібліятэка ў г. Мінску).

**Нацыянальная кухня** з’яўляецца важным элементам культуры. Турысты любяць смакаваць нацыянальныя стравы, цікавяцца рэцэптамі, прадуктамі і напоямі. Найбольш прываблівымі могуць быць рэстараны

(кавярні, карчма, шынок), якія спецыялізуюцца на нацыянальных традыцыях кухні з выкарыстаннем элементаў фальклору і этнаграфіі.

Т.ч., жанры культуры з'яўляюцца базісам для фармавання турыстычнай прывабліваcці дэстынацыі, матывацыі турыстычнай дзейнасці, стварэння і спажывання турыстычных паслуг.

### *3. Азначэнне тэрмінаў і паняткаў культурнага турызму.*

Панятак «культурны турызм» («cultural tourism») ўпершыню згадваецца афіцыйна на міжнародным узроўні ў матэрыялах Усясветнай канферэнцыі па культурнай палітыцы (1982 г.). Англійскі тэрмін «cultural tourism» першапачаткова вызначаўся як «культурна-пазнавальны альбо пазнавальны турызм», але ў навукова-даследчай і навучальнай літаратуры XXI ст. гэтыя тэрміны сталі часцей замяняцца тэрмінам «культурны» турызм.  Ад гэтага не змянілася зыходная мэта віду турызму – знаёмства з гісторыяй і культурай краіны ўва ўсіх яе праявах, але пад уздзеяннем шматлікіх фактараў змяніліся адносіны да гуманітарнай функцыі і глабальнай місіі культурнага турызму ў свеце, а менавіта:

- рост тэндэнцый да змены, трансфармацыі і знікнення нацыянальных культур у выніку сучасных працэсаў глабалізацыі:
- наданне міжнароднай супольнасцю важнага значэння праблемам захавання культурнай спадчыны, нацыянальных культур, культурнай самабытнасці і культурнай разнастайнасці;
- рост зацікаўленасці да культурнага ўзаемадзеяння між народамі і дзяржавамі па лініі: турызм і культура, турызм і культурная шматвобразнасць, турызм і міжкультурны дыялог, турызм і эканоміка;
- акцэнтуалізацыя дзейнасці міжнародных арганізацый на праблемах культуры: Канвенцыя аб ахове сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны (1972); Даклад ААН аб развіцці чалавека: Культурная свабода ў сучасным шматвобразным свеце (2004); Усеагульная дэкларацыя ЮНЭСКА пра  культурную разнастайнасць (2001); Міжнародная канвенцыя ЮНЭСКА аб ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны (2003);
- наданне новай місіі культурнаму (культурна-пазнавальнаму) турызму як інструменту міру, развіцця, збліжэння народаў, выха-

вання павагі, цярпімасці, узаемаразумення на аснове гуманітарных каштоўнасцей турызму.

Такім чынам, тэрміны «культурны», «культурна-пазнавальны» альбо «пазнавальны» турызм, адпавядаюць англійскаму тэрміну «*cultural*», вызначаюць адзін і той жа від турызму, мэтай якога з’яўляецца ў шырокім сэнсе пазнанне нацыянальнай культуры краіны наведвання. Але знак роўнасці між дзвюма гэтымі паняткамі ставіць не варта. Пры больш падрабязным разглядзе відаў культурнага турызму і іх функцый трэба мець на ўвазе, што панятак *культурна-пазнавальны* турызм звужае магчымасці культурнага турызму ў межах толькі пазнавальных (павярхоўна-азнаямляльных) яго функцый, а прафесійныя і спецыялізаваныя функцыі культурнага турызму застаюцца па-за яго зместам.

Вылучэнне культурнага турызму як аднаго з відаў турыстычнай дзейнасці праводзіцца паводле наступных параметраў: 1) характар дзейнасці турыстаў у атрыманні новага досведу, уражанняў і задавальненні культурных патрэбаў; 2) матывацыі турыстаў, што характарызуе маштабы і попыт; 3) характарыстыка прапановы – асобных турыстычных рэсурсаў, якія задзеяны ў сферы задавальнення патрэбаў.

*Культурны турызм – гэта перамяшчэнні турыстаў за межы іх пастаяннага пражывання з улікам поўнага альбо частковага інтарэсу да помнікаў культуры, культурных падзей, музеяў, гістарычных мясцін, мастацкіх галерэй і выканаўчага мастацтва, месцаў традыцыйнага пражывання людзей, этнакультурных ландшафтаў, відаў дзейнасці і стыляў у мэтах задавальнення культурных патрэбаў.*

Культурны турызм – гэта не проста магчымасць знаёмства з нейкім аб’ектам культуры, але і здольнасці да разумення яго інтэрпрэтацыі, да асэнсавання яго сутнасці і пазнання атмасферы месца і яго жыхароў.

### *4. З гісторыі развіцця культурнага турызму*

На працягу свайго гістарычнага існавання людзі абменьваліся культурным досведам, ідэямі, каштоўнасцямі і таварамі праз мастацтва і гандаль. Важнай матывацыяй выступала культурная складаючая пры адкрыцці новых зямель, паломніцтваў, хаджэнняў, дзейнасці хрысці-

янскіх місіянераў. У XVIII-XIX стст. пад культурным турызмам разумелі практыку падарожжаў па Еўропе ў мэтах азнаямлення і вывучэння такіх відаў мастацтва, як выяўленчае і музыкальна-тэатральнае, што давала магчымасці стаць адукаванымі, «культурнымі» людзьмі. У др. пал. XIX-XX стст. культурны турызм становіцца масавай з'явай, чаму паспрыялі такія фактары, як развіццё тэхнічнага прагрэсу, культурнай індустрыі і турыстычнай інфрастуктуры.

У XXI ст. культурны турызм выступае як гарант ажыццяўлення ідэй інтэлектуальнай і маральнай салідарнасці чалавецтва, сцвярджэння ідэалаў талерантнасці ў грамадстве, разумення шматвобразнасці культур у свеце.

Доля культурнага турызму ў свеце сёння складае каля 18-20 % ад агульнай колькасці наведванняў. Паводле прагнозаў ВТО да 2020 г. культурным турыстам стане кожны чацвёрты турыст і складзе 25% ад агульных паказчыкаў міжнароднага турызму.

### *5. Функцыянальная роля культурнага турызму.*

У жыцці грамадства яна вызначаецца наступнымі фактарамі:

– забяспечвае тры гуманітарныя функцыі: культурна-пазнавальную і адукацыйную (садзейнічае павышэнню пазнавальнага, адукацыйнага і культурнага ўзроўню насельніцтва); культурна-ахоўную і кансерватыўную (як стымулятар захавання і рэстаўрацыі культурнай спадчыны); камунікацыйную і міратворчую (спрыяе культурнаму супрацоўніцтву і ўзаемаразуменню);

– спрыяе развіццю розных жанраў і відаў мастацтва;

– стварае значную колькасць працоўных месцаў;

– спрыяе развіццю эканомікі.

– служыць адным з сродкаў фармавання пазітыўнага іміджу дэстынацыі.

### *6. Узроўні культурнага турызму*

Разглядаюцца ў залежнасці ад прыярытэту і аб'ёму спажывання культурных аб'ектаў у матывацыі турыстаў. Можна выдзеліць тры ўзроўні: культурны турызм як спецыфічны від турызму, неспецыялізаваны культурны турызм і культурны квазітурызм.

I. Як спецыфічны від турызму:

– прафесійны культурны турызм, які заснаваны на прафесійных кантактах (для работнікаў культурнай сферы);

– спецыялізаваны – культурная матывацыя з'яўляецца асноўнай мэтай паездкі (незалежна ад роду заняткаў турыстаў).

II. Неспецыялізаваны культурны турызм:

– культурная матывацыя з'яўляецца неад'емнай часткай турпрадукту пры дамінацыі агульнапазнавальных мэтаў і не абавязковай у задавальненні культурных патрэбаў;

– культурны турызм як элемент іншых відаў турызму (культурнага і дзелавога турызму, лячэбна-аздараўляльнага і культурнага, рэкрэацыйна-культурнага);

– спадарожны культурны турызм, пры якім матывацыі культурных патрэбаў з'яўляюцца дадатковымі, неабавязковымі альбо выпадковымі.

III. Культурны квазітурызм, да якога адносяцца паездкі рэзідэнтаў дадзенай мясцовасці, адной з матывацыяй якіх з'яўляецца спажыванне культурнага турпрадукту – жыхары далёкіх раёнаў мегаполіса і рэгіёнаў, якія не з'яўляюцца пастаяннымі кліентамі і зрэдку наведваюць культурныя ўстановы, карыстаюцца паслугамі турсервісу і інфраструктурай.

## **Лекцыя 2.** Культурны турызм: асаблівасці і тэндэнцыі развіцця

1. *Асаблівасці міжнароднага культурнага турызму.*
2. *Фактары і ўмовы развіцця культурнага турызму.*
3. *Тэндэнцыі развіцця культурнага турызму.*
4. *Характарыстыка культурных турыстаў.*

*1. Міжнародны культурны турызм* базіруецца на выкарыстанні патэнцыялу этнакультур і культурнай спадчыны краіны і рэгіёнаў. У праграмным артыкуле Сусветнай турыстычнай арганізацыі «Культурная спадчына і развіццё турызму» гаворыцца, што «адным з фундаментаў індустрыі турызму стала ўласцівае ўсяму чалавецтву жаданне ўбачыць і пазнаць культурную самабытнасць розных частак свету. Пры ўнутраным турызме культурная спадчына стымулюе нацыянальны гонар за сваю гісторыю. У міжнародным – выхоўвае павагу і разуменне да іншых

культур і народаў і, як правіла, спрыяе міру і ўзаемапаразуменню. На што неаднойчы звярталася ўвага міжнародных арганізацый ICOMOS (ІКОМОС) і ЮНЭСКА[1].

Сёння культурны турызм значна пашырыў свае магчымасці: апрача традыцыйнага культурна-пазнавальнага характару ў практыку ўваходзяць розныя яго тэматычныя адценні: культурна-этнаграфічны, культурна-этнічны, культурна-рэлігійны, культурна-антрапалагічны, культурна-экалагічны, культурна-гістарычны, культурна-падзейны, культурна-археалагічны.

Культурны турызм заснаваны на сусветнавядомых артэфактах дзейнасці чалавека (помнікі архітэктуры, выяўленчага і выканаўчага мастацтва, літаратуры, культурных і гістарычных падзеях); звычайна канцэнтруецца ў вядомых культурна-гістарычных цэнтрах Еўропы, Амерыкі, Азіі: Парыж (Луўр, Эйфелева вежа – 6,1 млн. чалавек у 2001 г..), Рым, Венецыя, Фларэнцыя (Галерея Уффіці), Лондан (Нацыянальная галерэя), Пецярбург (Эрмітаж), Мадрыд (Прадо), Прага, Вена (Мастацка-гістарычны музей). Іерусалім, Пекін і інш. культурныя цэнтры свету. Амаль штогод адкрываюцца новыя музеі, якія прывабліваюць турыстаў экзатычнымі і незвычайнымі экспанатамі: музей бульбы (в. Оттэрап, Данія), музей саўн (м. Муурума, Фінляндыя), музей Несі (графства Івернес, Велікабрытанія), музей загадак (Печэ, Венгрыя), музей сметніка (Нью-Джерсі, ЗША), музей чарцей (Каўнас, Літва), музей мышаловак (Марктобердорф, Германія), музей звону (Угліч, Расія), музеі пад адкрытым небам (скансаны).

## *2. Фактары і ўмовы развіцця культурнага турызму*

*Агульныя ўмовы:* развіццё транспартнай інфраструктуры, развіццё тэлекамунікацыйных тэхналогій, рост даходаў насельніцтва, павышэнне значнасці адпачынку як сродку сацыяльнай стратыфікацыі грамадства, глабалізацыя эканомікі і абмен ідэямі і тэхналогіямі.

[1] ICOMOS (ІКОМОС) – Міжнародная арганізацыя па ахове помнікаў і гістарычных мясцін. Заснаваная ў 1956 г.; ажыццяўляе ацэнку аб’ектаў па ўключэнні ў спіс сусветнай спадчыны. ЮНЭСКА – арганізацыя аб’яднаных нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры. Створана ў 1945 г. Галоўная мэта – садзейнічаць умацаванню міра шляхам супрацоўніцтва народаў у галіне адукацыі навукі і культуры.

Фактары развіцця з боку прапаноў:

1) Рост колькасці і разнастайнасці культурных аб'ектаў (інвестыцыйная палітыка, развіццё творчых культурных індустрыяў, выкарыстанне ў сферы культурнага спажывання аб'ектаў вытворчай і бытавой традыцыі).

2) Дзяржаўная і наддзяржаўная падтрымка і стымуляцыя культурнага турызму на захаванне культурных артэфактаў і рэстаўрацыйныя работы.

3) Даступнасць інфармацыі пра культурнае развіццё і помнікі.

4) Дыферэнцыяцыя турыстычнага прадукту ў разлік на вузкія сегменты рынку.

З боку попыту:

1) Культурная спадчына і сучасныя культурныя працэсы служаць сродкам ідэнтыфікацыі (этнічнай, нацыянальнай, канфесійнай, культурнай) і зарыентаваны на адпаведныя інтарэсы.

2) Настальгія па мінуламу стымулюе наведванне мясцін у якасці эмацыйнага адпачынку, альбо «падпіткі каранёў», вяртае стыль *рэтра* ў моду, песенную культуру, дызайн.

3) Голад на пачуцці і эмоцыі.

4) Рост сімвалічнай каштоўнасці турызму для вызначэння статусавай пазіцыі ў грамадстве.

5) Павышэнне значнасці адпачынку як сродку самарэалізацыі.

6) Матывацыі для абавязковага наведвання культурных помнікаў.

7) Наведванне сімвалічных мясцін і помнікаў.

### *3. Тэндэнцыі развіцця культурнага турызму:*

1. Рост цікавасці да культурных помнікаў і аб'ектаў сумесна з іншымі відамі турызму.

2. Канцэнтрацыя культурнага турызму ў гарадах.

3. Сярод наведвальнікаў культурнай дэстынацыі пераважаюць унутраныя турысты і экскурсанты.

4. Культурныя аб'екты і помнікі становяцца не столькі функцыяй ведаў, сколькі функцыяй забаўляльнасці (Дыснэйлэнд у Францыі за год збірае больш наведвальнікаў, чым Луўр, Ватыканскія музеі, Прадо і Дрэздэнская галерэя разам узятыя). Супрацьстаяць такой тэндэнцыі куль-

турныя дэстынацыі з наступнымі характарыстыкамі: непераўзыдзеныя – абавязковыя для наведвання (Эрмітаж, Пецярбург); з рэпутацыяй мясцін-сімвалаў (Тауэр - Лондан, Калізей - Рым); поліфункцыянальныя – з унікальнай архітэктурай, мастацкімі галерэямі, рэлігійнымі службамі, канцэртамі сучаснай, сімфанічнай і камернай музыкі, кінатэатрамі, заламі, публічнымі лекцыямі, разнастайнымі кавярнямі і рэстаранамі, сувенірамі і магазінамі (Цэнтр Пампіду ў Парыжы).

5. Рост цікавасці да атракцыі сімвалічных вобразаў, якія асацыруюцца з канкрэтнай дэстынацыяй (з вядомымі людзьмі, рэальнымі і надуманымі падзеямі, літаратурнымі, міфічнымі і казачнымі героямі – маршрут «Рэзідэнцыя Дзеда Мароза»).

6. Паніжэнне цікавасці да помнікаў культурнай матэрыяльнай спадчыны (музеі, архітэктура). Сучасных турыстаў больш вабіць атмасфера дэстынацыі – гукі, рытмы, пахі, смак і яе крэатыўна-забаўляльны характар (начныя клубы, этнічныя кварталы, гастранамія і інш.).

7. Турызм – як індустрыя ўражанняў: забеспячэнне эмацыянальна-пачуццёвага ўспрыняцця культуры як асновы яе разумення шляхам вобразаў, а не культурнымі аб’ектамі. Для гэтага неабходна: развіццё сродкаў павышэння крэатыўнасці турыстычных прапаноў «творчы дух», фестывалізацыя з выкарыстаннем гарадской прасторы, падзейнасць, культурныя і культурна-крэатыўныя кварталы, вёска (вуліца) майстроў.

8. Непасрэдны ўдзел турыстаў у вытворчасці ўражанняў (інтэрактыўныя формы работы з турыстамі ў музеях і інш. аб’ектах, арганізацыя творчай дзейнасці – музіцыраванне, ганчарства, саломапляценне), валанцёрскі турызм (раскопкі, рэстаўрацыя).

9. Размыванне мяжы між высокай (элітарнай) і масавай культурай раўнуе матывацыі і патрэбы сучасных турыстаў, якія адначасова выбіраюць папулярную, высокую і традыцыйную культуру.

## *4. Характарыстыка культурных турыстаў*

Характарыстыка прыводзіцца паводле аналізу матываў турыстаў (вынікі даследаванняў ВТО).

І. Катэгорыі паводле культурнай матывацыі:

1 група – з дамінацыяй культурных матываў (атрыманне новых уражанняў, досведу, ведаў, адпачынак, рэлаксацыя, адыход ад руціны);

2 гр. – паводле сацыяльных матываў (звыклы спосаб правядзення адпачынку, за кампанію);

3 гр. - паводле матывацыі з прафесійнай дзейнасцю.

II. Катэгорыі турыстаў паводле задавальнення культурных патрэбаў:

1 гр. – мэтанакіраваныя культурныя турысты з першаснай культурнай матывацыяй – 30%.

2 гр. – рэкрэацыйна-арыентаваныя турысты з двайной матывацыяй – 30 %.

3 гр. –з аслабленай (другаснай) культурнай матывацыяй – 20%.

4 гр. – выпадковыя турысты з сацыяльнай матывацыяй – 15%.

Высновы:

- Большая частка турыстаў адносіцца да турыстаў з паралельнай ці другаснай культурнай матывацыяй, і меншая – з чыста культурнымі матывамі.

- Турызм усіх відаў уключае ў сябе разнастайныя культурныя праграмы з наведваннем адпаведных культурных аб'ектаў і імпрэзаў і ў першую чаргу знаёмства з культурай месца наведвання.

## **Лекцыя 3.** Рэсурсы культурнага турызму

1. *Культурныя помнікі і аб'екты турыстычнага інтарэсу.*
2. *Сістэматызацыя рэсурсаў культурнага турызму.*
3. *Практыка выкарыстання культурных рэсурсаў.*
4. *Базавыя крытэрыі аб'ектаў культуры.*
5. *Музеі і постмузейныя турыстычныя практыкі.*

*1.Культурныя помнікі і аб'екты турыстычнага інтарэсу* ахопліваюць:

- матэрыяльныя і духоўныя вынікі традыцыйнай культуры (архітэктура, літаратура, выяўленчае і выканаўчае мастацтва),

- матэрыяльныя і нематэрыяльныя вынікі сучаснай інавацыйнай культурнай індустрыі (мода, кіно, мас-медыя, графіка, веб-дызайн, індустрыя забаўляльнасці),

- паўсядзённае жыццё насельніцтва (быт, праца, адпачынак),

- маюць тэрытарыяльную прывязанасць (месца падзеі, этнічны квартал), арганізацыйны характар (музей, фэст), тэматычны змест (архітэктура барока, літаратура).

## *2. Сістэматызацыя рэсурсаў культурнага турызму.*

Табл. 1. Рэсурсы культурнага турызму[2]

| **Крытэрыі** | **Віды рэсурсаў** | | |
|---|---|---|---|
| Час фармавання | Спадчына | Сучасная (традыцыйная і новацыйная) культура | |
| Форма існавання | Стацыянарныя культурныя помнікі (прывязаныя да тэрыторыі фізічна, арганізацыйна, суб'ектыўна) | Культурныя падзеі | |
| Культурны базіс | Матэрыяльная культура (артэфакты) | Нематэрыяальная культура | Жывая культура |
| «Узровень» культуры | Высокая культура | Папулярная (у т. л. масавая) культура | |

## *3. Практыка выкарыстання культурных рэсурсаў.*

Рэсурсы культурнага турызму (працяг табліцы)

| **Крытэрыі** | **Віды рэсурсаў** | | |
|---|---|---|---|
| Патэнцыял турыстычнай значнасці | Аб'екты сусветнага значэння | Аб'екты змешанага карыстання з мясцовым насельніцтвам | Аб'екты, мясцовага значэння |
| Функцыі аб'екта | Пазнавальныя | Забаўляльныя | |
| Фактор вытворчасці турпрадукту | Рэальныя | Сімулятыўныя | Тэхналагічныя |

[2] Выкарыстаны элементы табліцы паводле : Сущинская М. Д. Культурный туризм: учебное пособие. – СПб.: Изд-во СПбГУЭФ, 2010.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Форма спа-жывання | Атрыманне сістэматызаванай інфармацыі | Атрыманне запраграмаваных культурных уражанняў | Канструяванне уражанняў праз сваю дзейнасць |

*4. Базавыя крытэрыі аб'ектаў культуры* супадаюць з крытэрыямі ацэнкі аб'ектаў культуры Спісу Сусветнай спадчыны ЮНЭСКА[3], паводле якога кожны аб'ект павінен:

1) уяўляць сабой шэдэўр тварэння геніяльнасці чалавека;

2) паказваць важнасць працэсу перадачы ў часе і геакультурным арэале агульначалавечых каштоўнасцей у галіне культуры, архітэктуры, манументальным мастацтве, горадабудаўніцтве, ландшафтным дызайне;

3) быць унікальным і важным сведкам існавання альбо знікнення пэўнай цывілізацыі ці культурнай традыцыі;

4) уяўляць сабой выдатны ўзор архітэктурнага ці ландшафтнага ансамблю аднаго з перыядаў гісторыі развіцця чалавецтва;

5) аб'ект з'яўляецца выключным прыкладам традыцыйнай забудовы з выкарыстаннем рэльефу, ландшафту як узор культуры ўзаемадзеяння з навакольным асяроддзем і характарызаваць пэўную культуру, асабліва, калі яна апынулася неабароненай у працэсе гістарычных зменаў;

6) аб'ект непасрэдна звязаны з падзеямі, традыцыямі, ідэямі, веравызнаннямі, мастацкімі і літаратурнымі творамі і мае выключную сусветную важнасць.

Генеральная канферэнцыя ЮНЭСКА прыняла (17.10. 2003) Міжнародную канвенцыю пра ахову нематэрыяльнай культурнай спадчыны: духоўныя традыцыі і формы выяўлення мовы ў якасці духоўнага

[3] Канвенцыя аб ахове Сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны была прынята на XVII сесіі Генеральнай канферэнцыі ЮНЭСКА ад 16.11.1972 г. Галоўная мэта – захаванне ўнікальных аб'ектаў. У 1976 г. былі створаны Камітэт і Фонд Сусветнай спадчыны, а ў 1978 г. першыя культурныя і прыродныя аб'екты былі ўключаны ў Спіс Сусветнай спадчыны – своеасаблівы фонд выдатных помнікаў культуры і прыроды.

носьбіту, выканаўчае мастацтва, звычаі, абрады, святы, веды і звычаі прыродакарыстання і традыцыйных промыслаў.

Лідэрамі па колькасці аб’ектаў Спісу Сусветнай культурнай спадчыны (ад агульнай колькасці 1007 аб’ектаў на 2014 г.) з’яўляюцца: Італія – 48, Кітай – 45, Іспанія – 44, Францыя – 38, Нямеччына – 37, Мексіка – 32, Індыя – 31, Вялікабрытанія – 28, Расія – 26, ЗША – 22, Грэцыя – 17.

Беларусі належаць 5 аб’ектаў: 3 аб’екты ўключаны па культурна-матэрыяльных крытэрыях; 1 – па крытэрыях духоўнай культуры і 1 аб’ект паводле прыродных крытэрыяў як прыродны феномен выключнай прыгажосці і эстэтычнай важнасці (крытэрый vii). Апрача гэтага 10 аб’ектаў на стан 2014 г. знаходзяцца ў ліку кандыдатаў у спіс: Аўгустоўскі канал (Гродзенская вобл.), Сафійскі сабор (Полацк), Камянецкая вежа (Брэсцкая вобл.), Барысаглебская царква (Гродна), Манастыр Св. Мікалая (Магілёў), Брэсцкая крэпасць, Гомельскі палацава-паркавы ансамбль, Абарончыя храмы (Гродзенская вобл.), праспект Незалежнасці (Мінск), Драўляныя цэрквы Палесся.

У нашых суседзяў спіс аб’ектаў выглядае наступным чынам: Латвія – 2, Літва – 4, Польшча – 13, Расія – 26, Украіна – 7.

## *5. Музеі і постмузейныя турыстычныя практыкі*

Функцыі, тыпы і структура музеяў. Культурны турызм немагчыма ўявіць па-за кантэкстам музеяў, выставачных залаў, вернісажаў і галерэяў. Паводле «Палажэння аб музеях» Рэспублікі Беларусь задачамі музея з'яўляюцца: вывучэнне і асэнсаванне гісторыі культуры ў мэтах развіцця інтэлектуальных, маральных, культурных і творчых магчымасцей, выхавання нацыянальнай самасвядомасці, далучэння да нацыянальнай і агульначалавечай культуры; удзел ва ўдасканальванні вучэбна-выхаваўчай працы; ахова і прапаганда помнікаў гісторыі, культуры, прыроды роднага краю; правядзенне культурна-асветніцкай працы.

Дзейнасць музея ўключае ў сябе: навуковае камплектаванне, арганізацыю ўліку і захоўванне музейных калекцый, забеспячэнне іх цэласнасці; навуковыя даследаванні на аснове музейных калекцый, архіўных, бібліятэчных і іншых матэрыялаў; праектаванне і стварэнне музейных экспазіцыяў і выстаў, музейны дызайн і афармленне; усе віды рэстаўрацыі і кансервацыі музейных прадметаў; падрыхтоўку і выданне

каталогаў музейных калекцый, іншай друкаванай і сувенірнай прадукцыі; папулярызацыю музейных калекцый.

У склад экспазіцый музеяў уваходзяць:

– калекцыі і асобныя музейныя рэчы, якія звязаны з важнейшымі з'явамі і падзеямі ў жыцці беларускага і іншых народаў, дзяржавы і грамадства, з развіццём культуры і быту, навукі і тэхнікі, мастацтва і літаратуры, з жыццём і дзейнасцю дзяржаўных дзеячаў навукі, літаратуры, культуры і мастацтва, актыўных удзельнікаў гістарычных падзей;

– творы манументальнага выяўленчага, дэкаратыўна-прыкладнога (у тым ліку народнага), музычнага, тэатральнага і іншых відаў мастацтва;

– калекцыі і асобныя прадметы геалогіі, палеанталогіі, мінералогіі, фауны і флоры, якія характарызуюць прыродазнаўчую гісторыю;

– рукапісы ўсіх відаў, уключаючы рукапісныя і старадрукаваныя кнігі, антыкварныя, рэдкія і асабліва каштоўныя выданні;

– нумізматычныя, геральдычныя, сфрагістычныя, эпіграфічныя калекцыіі асобныя прадметы;

– калекцыі зброі і вайсковай атрыбутыкі, а таксама асобныя прадметы ваеннай тэматыкі;

– іншыя прадметы, якія з'яўляюцца гістарычнай, навуковай, мастацкай і культурнай каштоўнасцю.

Музеі бываюць міжнароднага, рэспубліканскага, мясцовага значэння. Асноўныя профільныя групы музеяў: гістарычныя, краязнаўчыя, прыродна-навуковыя, літаратурныя, палеанталагічныя, політэхнічныя, педагагічныя, тэатральныя, мастацкія, этнаграфічныя, фальклорныя, гісторыка-археалагічныя, літаратурныя, жывапісу, рамёстваў, рэлігіі, персанальныя, іншыя.

Музеі комплекснага профіля. Практыка калекцыяніравання. Тыпы музеяў: музей пад адкрытым небам, музей-заказнік, музей-сядзіба, мемарыяльны музей, дом-музей, музей-кватэра.

Музеі як аб’екты міжнароднага турызму. Музеі Рэспублікі Беларусь.

**Да постмузейных турыстычных практык адносяцца:**

1) камерцыйна-відовішчны быт – музеі, якія імітуюць рэальныя культурныя традыцыі: этнаграфічныя вёскі, кварталы, хаткі;

2) «Экспазіцыя жыцця» – дамы ў сельскай мясцовасці, якія стылізаваныя пад традыцыйны ўклад жыцця эпохі (быт, промыслы, занятак, кухня, традыцыі);

3) забаўляльныя гульні, фантазіі – тэматычныя паркі, культурныя ўстановы.

**Тэматычныя паркі –** музеепадобныя рэпрэзентацыі найбольш вядомых і папулярных тэм. У аснове працы парку закладзена забаўляльная тэма, якая раскрываецца ў атракцыёнах і прадстаўленнях, ёй падпарадкаваны ўсе дапаможныя паслугі і паркавыя службы. У адпаведнасці з тэматыкай распрацоўваюцца экстэр'еры і інтэр'еры будынкаў, ландшафты, водныя аб'екты, скульптуры, дызайн агароджы і інш. аб'екты. У якасці тэматычных аб'ектаў могуць выступаць: мясціны, звязаныя з гістарычнымі падзеямі, прыродныя аб'екты і заказнікі, будынкі і канструкцыі, мемарыяльныя помнікі і комплексы, аб'екты, звязаныя з жыццём і дзейнасцю людзей, тэхнічныя экспанаты, помнікі мастацтва, археалагічныя помнікі, народныя абрады і звычаі, сучасныя і будучыя дасягненні, усякая тэма, якая можа зацікавіць турыстаў.

Першы тэматычны парк быў адкрыты Уолтам Дыснеям 17.07.1955 г. – «Дыслейленд» (ЗША, Фларыда, пл. 180 га). Дыснейленд - амерыканская легенда, у якой дзеці і дарослыя трапляюць у казку. Сёння Дыснейленд – гандлёвы брэнд актыву кампаніі, які паспяхова інвестыруе развіццё Дысней-праектаў ўва ўсім свеце. Французскі Дыснейленд (12.04.1992) займае 2 тыс. га. На будаўніцтва пайшло 1,5 млрд. дол. Гэта комплекс з двума забаўляльнымі паркамі, зонай адпачынку, рэстаранамі, дыскатэкамі, магазінамі, начнымі клубамі і 7 гатэлямі ад 2 да 4 зорак.

У Швецыі папулярныя тэматычныя паркі «Свет Астрыд Ліндгрэн» (г. Вімербі, наведванне каля 16 тыс. чал. у год), і «Лізеберг» (г. Гётэборг, 485 тыс. чал.); у Фінляндыі «Зямля Мумі Тролей» (па казках Туве Янсон) у 30 км. ад г. Турку, 160 тыс. чал.; у Іспаніі «Тэрра Мітыка»(«Зямля міфаў») – г. Банідорм; «Свет Ферары» (ААЭ). Інфармацыя для турыстаў у тэматычным парку змяшчае: назву аб'ектаў (суб'ектаў); падзеі; месцазнаходжанне аб'екта (суб'екта), апісанне (дата ўзнікнення, матэрыял, стыль, характарыстыка), дадзеныя пра аўтара аб'екта, бяспека наведвання. У

адрозненні ад цэнтраў спадчыны тэматычныя паркі выкарыстоўваюць неаўтэнтычныя, сімулятыўныя і штучныя рэсурсы і галоўнай іх функцыяй з'яўляецца забаўляльнасць і стымуляцыя задавальненняў. Для таго каб даваць даход, парк павінен разлічваць на паўторныя наведванні. *(У ЗША налічваецца каля 600 тэматычных паркаў, колькасць наведвальнікаў даходзіць да 400 млн., даходы – каля 12 млрд. дол. ЗША).*

Сёння тэматычныя паркі развіваюцца ў ЗША, Францыі, Іспаніі, Нідэрландах, Даніі, Германіі, Вялікабрытаніі, Японіі, Кітаі, Аўстраліі.

## Пытанні для самаправеркі

*1. Што вы разумееце пад тэрмінам культура?*

*2. Пералічыце выключныя адметнасці нацыянальнай культуры.*

*3. Матывуйце свой выбар у наведванні культурных аб'ектаў.*

*4. Якія жанры культуры выклікаюць большую цікавасць у школьнікаў, моладзі(студэнтаў), дарослых і пажылых людзей? Чаму?*

*5. Ахарактарызуйце культурную дэстынацыю паводле жанраў культуры з пазіцыі турыстычнага інтарэсу.*

*6. Што маем на ўвазе пад паняткам «місія культурнага турызму»?*

*7. Абгрунтуйце тэрміны «культурны», «культурна-пазнавальны» альбо «пазнавальны» турызм, культурна-асветніцкі турызм.*

*8. Што вы разумееце пад тэрмінам культурны турызм?*

*9. Якія функцыянальныя ролі выконвае культурны турызм у жыцці грамадства?*

*10. Дайце характарыстыку ўзроўням культурнага турызму.*

*11. Якімі адметнасцямі характарызуецца міжнародны культурны турызм?*

*12. Пералічыце найбольш вядомыя аб'екты міжнароднага культурнага турызму?*

*13. Якія фактары спрыяюць развіццю турызму на сучасным этапе?*

*14. Якія фактары з'яўляюцца адмоўнымі і не пажаданымі ў міжнародным культурным турызме; нацыянальным і рэгіянальным турызме?*

*15. Якія асноўныя тэндэнцыі назіраюцца ў развіцці і перспектыве культурнага турызму?*

*16. Якія культурныя аб'екты свету лічацца сімвалічнымі, абавязковымі для наведвання, прэстыжнымі?*

*17. Якія культурныя аб'екты Беларусі можна лічыць сімвалічнымі, абавязковымі для наведвання, прэстыжнымі?*

*18. Чым можна растлумачыць паніжэнне цікавасці да помнікаў культурнай матэрыяльнай спадчыны (музеі, архітэктура)?*

*19. Што можна прапанаваць турыстам у плане атракцыі сімвалічных вобразаў з магчымасцей турыстычнага патэнцыялу Беларусі?*

*20. Дайце характарыстыку культурных турыстаў.*

*21. Чым можна растлумачыць факт таго. што большая частка турыстаў адносіцца да турыстаў з паралельнай ці другаснай культурнай матывацыяй, і меншая – з чыста культурнымі матывамі?*

*22. Пералічыце асноўныя віды культурных аб'ектаў у вашым рэгіёне (мясцовасці) з пазіцыі патэнцыялу культурнай значнасці.*

*23. Якая тэматыка можа стаць асновай тэматычнага парку?*

*24. Дайце характарыстыку аб'ектаў культуры паводле базавых крытэрыяў.*

*25. Пералічыце 10 аб'ектаў, якія знаходзіцца ў ліку кандыдатаў у Спіс Сусветнай культурнай спадчыны ў Рэспубліцы Беларусь.*

# Тэма 2. Віды культурнага турызму

## **Лекцыя 4.** Культурна-гістарычны, альбо турызм спадчыны

1. *Сістэматызацыя відаў культурнага турызму.*
2. *Аб'екты і з'явы турызму культурнай спадчыны.*
3. *Культурна-гістарычныя рэсурсы турызму.*
4. *Ацэнка культурна-гістарычных рэсурсаў.*
5. *Асаблівасці і тэндэнцыі турызму культурна-гістарычнай спадчыны.*
6. *Новыя тыпы культурна-гістарычных аб'ектаў.*

1. *Сістэматызацыя відаў культурнага турызму* (паводле табліцы)[4].




2. *Аб'екты і з'явы культурнай спадчыны* з'яўляюцца галоўным кампанентам культурнага турпрадукту. Пад культурнай спадчынай разумеем сукупнасць аб'ектаў і з'яваў матэрыяльнай і духоўнай культуры народу, народнасці, этнічнай групы, створанай мінулымі пакаленнямі як універсальная каштоўнасць з гледжання гісторыі, эстэтыкі, мастацтва,

[4] За аснову ўзята табліца паводле : Сущинская М. Д. Культурный туризм: учебное пособие. – СПб.: Изд-во СПбГУЭФ, 2010.

навукі, этналогіі і антрапалогіі для захавання культурнай самабытнасці і яднання нацыі.

Табл. 2 : Аб'екты і з'явы культурнай спадчыны

| Тыпы спадчыны | Характарыстыка | Катэгорыі |
|---|---|---|
| Помнікі гісторыі і культуры | Аб'екты, іх ансамблі і комплексы з прыродна-гістарычным асяродкам (фонам) і нематэрыяльныя ўтварэнні | • Помнікі гісторыі (у т.л. навукі, тэхнікі, інжынернага мастацтва, этнаграфіі, мемарыялы)<br>• Помнікі археалогіі<br>• Помнікі архітэктуры і горадабудаўніцтва (у т.л. гістарычная планіроўка, садова-паркавыя аб'екты)<br>• Помнікі манументальнага мастацтва<br>• Помнікі выяўленчага, музыкальна-тэатральнага мастацтва і літаратурнай творчасці |
| Культурныя ландшафты | Устойлівыя спалучэнні прыродных і культурных кампанентаў, створаных у выніку мастацка-творчай і інтэлектуальнай дзейнасці.<br>Вынікі сумеснай творчасці чалавека і прыроды. Крытэрыі: універсальнасць – геаграфічны, гістарычны і культурны кантэксты.<br>Цэласнасць – завершанасць, адзінства, гарманічнасць і захаванасць;<br>Аўтэнтычнасць - сапраўднасць. | • Дапатопныя альбо выкапнёвыя (помнікі археалогіі, палеанталогіі, астанкі старажыт. гарадоў, курганоў, зніклых культурных традыцый)<br>• Рэліктавыя – знікаючыя і жывучыя ў іншым культурным асяродку.<br>• Эвалюцыяваныя (змененыя) ландшафты пад мэтанакіраваным уздзеяннем абарыгенных культур. (Гістарычныя, завадскія, індустрыяльныя, сельскія).<br>• Рукатворныя (створаны мэтанакіравана) – ландшафты пасяленняў, садоў, паркаў).<br>• Асацыятыўныя ландшафты з культурнай вартасцю:<br>• *рэальна* звязаныя з гістарычнымі падзеямі, асобамі, творамі;<br>• *ментальна* асацыруецца з тым ці іншым феноменам культуры (мемарыяльныя, сакральныя, мастацкія) |

| | | |
|---|---|---|
| Формы жывой традыцыйнай культуры | Традыцыйныя віды дзейнасці, як пераемнасць культурных навыкаў і уяўленняў. | • Традыцыі прыродакарыстання<br>• Народныя рамёслы<br>• Абрады, звычаі і рытуалы<br>• Традыцыі быту і жылля<br>• Фальклор. |

Культурная спадчына народу звязана з канкрэтным геаграфічным арэалам пражывання і гістарычным перыядам развіцця. Яе каштоўнасць узрастае на працягу часу; звязана гэта з яе старэннем, зменамі, разбурэннямі і стратамі, прычынамі чаго з'яўляюцца наступныя фактары:

- натуральнае фізічнае старэнне аб'ектаў;
- натуральны зыход пакаленняў людзей – носьбітаў матэрыяльнай і нематэрыяльнай культуры;
- гвалтоўнае разбурэнне ў выніку войнаў і тэрактаў;
- палітычныя, міжнацыянальныя і міжкультурныя канфлікты, якія прыводзяць да этнічных чыстак і знішчэння этнічнай культуры асобных народаў;
- няправільная дзяржаўная палітыка ў галіне культурнай спадчыны;
- развіццё турыстычнай інфраструктуры і матэрыяльнай базы на тэрыторыі культурнай спадчыны;
- гвалтоўнае разбурэнне аб'ектаў у выніку турыстычнага вандалізму;
- рост масавага турызму ў якасці камерцыйнага выкарыстання культурнай спадчыны;
- камерцыялізацыя культурнай спадчыны, пад якой разумеем працэс пераўтварэння культурнай спадчыны ў тавар, які ацэньваецца рыначнымі катэгорыямі, з пазіцыі абменнай вартасці, даходнасці і канкурэнтаздольнасці на рынку.

Уздзеянне на стан культурнай спадчыны можа быць розным: поўнае разбурэнне і страта; частковае разбурэнне; поўнае захаванне; поўная замена альбо падмена сапраўднасці (фальсіфікаваная сапраўднасць); частковая змена (частковая сапраўднасць); развіццё за кошт дапаўнення новым сэнсам ці значэннем.

*3. Культурна-гістарычныя рэсурсы турызму* – сукупнасць аб'ектаў і з'яваў як вынікі матэрыяльнай і духоўнай дзейнасці чалавека ў працэсе яго гістарычнага развіцця. Сярод культурна-гістарычных аб'ектаў вядучая роля належыць помнікам гісторыі і культуры, якія з'яўляюцца найбольш прываблівымі для турыстаў:

**Гісторыя** (забудовы, памятныя мясціны і рэчы, гістарычныя падзеі, развіццё культуры і быту народу, навукі і тэхнікі, жыццё і дзейнасць вядомых людзей.

**Археалогія** (гарадзішчы, курганы, астанкі старажытных пасяленняў і захаванняў, умацаванняў, вытворчасці, каналаў, дарог, каменныя скульптуры, наскальныя выявы, прадметы старажытнасці і інш. Сёння можна асобна гаварыць пра археалагічны турызм: на тэрыторыі старажытных Фіваў (Егіпет) ствараецца буйнейшы ў свеце археалагічны скансэн; прыцягваюць увагу турыстаў дзеючыя раскопкі Пампеі, вялікім попытам карыстаюцца археалагічныя фестывалі ў Польшчы: самым буйным і вядомым фэстам у Польшчы з'яўляецца Біскупін, які праводзіцца ў скансэне, дзе захаваліся рэшткі старажытнага паселішча. У дачыненні да археалагічнага турызму ў Беларусі слушныя думкі выказаў даследчык В.Лакіза[5].

**Горадабудаўніцтва і архітэктура** (архітэктурныя ансамблі і комплексы, гістарычныя цэнтры, кварталы, пляцы, вуліцы, астанкі старажытнай планіроўкі і забудовы гарадоў і іншых населеных пунктаў, пабудовы грамадзянскай, прамысловай, вайсковай, культавай архітэктуры, народнага дойлідства, а таксама звязаныя з імі тварэнні манументальна-

---

[5] На тэрыторыі Усходняй Беларусі існуе знакамітая верхнепалеалітычная стаянка ў вёсцы Юравічы. Цікавым турыстычным аб'ектам могуць быць Краснасельскія крэмнездабываючыя шахты і наваколле Ваўкавыска. На тэрыторыі Белавежскай пушчы захавалася вялікая колькасць паселішч ад каменнага веку да эпохі Сярэднявечча, гарадзішчы, могільнікі, капішчы. У пушчанскім скансэне можна было б зрабіць рэканструкцыі старажытных жытлаў насельніцтва мезаліту і неаліту, бронзавага і жалезнага вякоў, у тым ліку і першых індаеўрапейцаў (культура шнуравой керамікі). Там жа можа быць адноўлена гарадзішча жалезнага веку з драўлянымі абарончымі ўмацаваннямі, пад'ёмным мастом, выкапаным ровам. А на яго тэрыторыі – некалькі дамоў, дзе б дэманстраваліся старажытная кухня і рамёствы. Лакіза Вадзім . Як у Беларусі можа развівацца археалагічны турызм? // http://www.tio.by/opinions/95522.02.2010

га, выяўленчага, дэкаратыўна-ужытковага, садова-паркавага мастацтва, прыгарадныя ландшафты).

**Мастацтва** (творы манументальнага, выяўленчага, дэкаратыўна-ужытковага і іншых відаў мастацтва).

Д**акументальныя помнікі (а**кты органаў улады і ўпраўлення, іншыя пісьмовыя і графічныя дакументы, кінафотадакументы і гуказапісы, а таксама старажытныя і іншыя рукапісы і архівы, запісы фальклору і музыкі, рэдкія друкаваныя выданні) – прарэгатыва архіваў, музеяў, бібліятэк і прыватных збораў.

*4. Ацэнка культурна-гістарычных рэсурсаў* – улік, характарыстыка і тыпалогія. Улік – указваецца назва аб'екта, месцазнаходжанне, маркіроўка, уладальнік, літаратурныя і іншыя крыніцы па аб'екту, схема размяшчэння, характарыстыка. Тыпалогія – інфармацыйная сутнасць аб'екта (унікальнасць, тыповасць, пазнавальнае і выхаваўчае значэнне, атрактнасць.

Г.зн., перш чым праводзіць ацэнку рэсурсаў культуры, неабходна вывучыць этапы развіцця саміх аб'ектаў (тэрыторыі, рэгіёну, дзяржавы), а менавіта:

1) грамадзянскую і вайсковую гісторыю аб'ектаў;

2) гістарычна-архітэктурны аспект развіцця;

3) архітэктурныя стылі;

4) важныя і цікавыя для турыстаў помнікі архітэктуры, гісторыі, культуры;

5) працэсы і этапы развіцця духоўнай культуры;

6) творчасць прадстаўнікоў культуры і мастацтва.

Выдзяляюцца наступныя моманты ацэнкі:

**Тэхналагічная** ацэнка характарызуе ступені захаванасці, прыгоднасці і камфортнасці турыстычных рэсурсаў для прыёму турыстаў. Крытэрыі ацэнкі: ступень фізічнай захаванасці (высокая, сярэдняя, нізкая); час камфортнага тэрміна выкарыстання; прапускныя здольнасці (колькасць чалавек у дзень); колькасць экспанатаў для паказу; зручнасць агляду; працэнт аб'ектаў паказу, даступных для турыстаў; магчымасці паляпшэння тэхналагічнага стану.

**Эстэтычная ацэнка** (крытэрыі): унікальнасць, эстэтычная змястоўнасць (колькасць дэталей і фрагментаў агляду) і здольнасць да

псіхалагічнага ўздзеяння, разнастайнасць пейзажу і гармоніі з наваколлем. Пры эстэтычнай ацэнцы трэба ўлічваць суб'ектывізм – у кожнага індывіда сваё эстэтычнае ўспрыняцце.

**Пры ацэнцы тэрыторыі** выяўляюць культурныя арэалы, складаюць кадастр культурных аб'ектаў, ацэньваюць іх значнасць, захаванасць, прапускную здольнасць і экалагічную змястоўнасць ландшафту (экалагічная ацэнка). Пасля вывучаюць турыстычную інфраструктуру – наяўнасць аб'ектаў харчавання і размяшчэння.

### *5. Асаблівасці і тэндэнцыі турызму культурна-гістарычнай спадчыны*

Культурна-гістарычны, альбо турызм спадчыны абумоўлены цікавасцю турыстаў да гісторыі і агульначалавечых каштоўнасцей у выніку чаго рэалізуюцца традыцыйныя адносіны да культуры як сродку асветы, пазнання (азнаямлення) і навучання. Экскурсійная форма пазнавальнай дзейнасці турыстаў у культурна-гістарычным турызме традыцыйна з'яўляецца дамінуючай, што можа выклікаць пэўныя праблемы ў кантэксце сучасных патрэбаў рынку. Неабходна ўлічваць наступныя тэндэнцыі:

1. Час спажывання прадукту культурна-гістарычнай спадчыны адбываецца вельмі хутка (параўнаем з курортнымі паслугамі), што абмяжоўвае культурны тур у працягласці 2-4 дней.

2. Помнікі культурнай спадчыны звычайна не выклікаюць паўторных наведванняў. Заўважана, што такі турызм падобны на калекцыяванне: турысты адзначаюць помнікі і месцы, у якіх яны не былі і якія павінны ўбачыць. Чым больш унікальны турыстычны аб'ект, тым менш шанцаў стымуляваць паўторнае наведванне. Парадокс у падтрыманні ўнікальнасці і немагчымасці ў аднаўленні і пашырэнні прапановы прадукту культурнай спадчыны на рынку.

3. Найбольш папулярнымі і далей застаюцца аглядна-азнаямляльныя туры на рэсурсах культурна-гістарычнай спадчыны пры вербальна-візуальным спосабе перадачы інфармацыі.

4. Пашырэнне прапаноў культурнага прадукту на базе рэсурсаў культурнай спадчыны з улікам развіцця «постмузейнасці», што

прыводзіць да размывання межаў між культурнай спадчынай і сучаснай культурай і ўзнікнення новага тыпу аб'ектаў – цэнтраў спадчыны.

### 6. Новыя тыпы культурна-гістарычных аб'ектаў.

*Цэнтры спадчыны* – уяўляюць сабой форму музея, але адрозніваюцца ад яго паводле наступных прыкмет:

– прынцыпы арганізацыі працы праводзяцца не вакол калекцый, а вакол культурна-гістарычных тэм (цэнтр культурна-гістарычнай спадчыны горада (дэстынацыі), цэнтр спадчыны дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва);

– выкарыстанне аўтэнтычных аб'ектаў не ў якасці самакаштоўнасці, а як сродку канструявання аўтэнтычнасці культурна-гістарычнай эпохі.

– актыўнае выкарыстанне інавацыйных тэхналогій фармавання ўражанняў на аснове развіцця інтэрактыўнасці, стымуляцыі пачуццяў, эмоцый, памяці ў мэтах асэнсавання дадзенай культурна-гістарычнай тэмы;

– сувязь мінулага з мясцовай паўсядзённай культурай (парк Біміш у Англіі, час спыніўся на 1913 г.).

*Тэматычныя гістарычныя паркі* – музеепадобныя рэпрэзентацыі найбольш вядомых і папулярных гістарычных тэмаў: «Дагістарычная даліна» (Куба), «Порт Авентура» (Іспанія), «Авэ Марыя Грота» (Ave Maria Grotto, ЗША), «Вёска Назарэт» (Ізраіль).

*Рэканструкцыі гістарычных падзей* – інсцэніроўкі вядомых падзей у аўтэнтычных і неаўтэнтычных дэкарацыях гістарычнага месца (крэпасць, вуліца, горад, поле); выкарыстоўваюцца як дапаможны інструмент у якасці музейнай экспазіцыі і як самастойныя культурныя помнікі. Для іх характэрны:

– неаўтэнтычнасць сродкаў;

– стварэнне атмасферы падзеяў з дапамогай візуальных і шумавых эфектаў;

– гульнявы характар атрымання інфармацыі;

– пазнавальныя і забаўляльныя функцыі.

## **Лекцыя 5-6.** Іншыя віды культурнага турызму

1. *Тэматычны турызм.*
2. *Арт-турызм.*
3. *Падзейны культурны турызм.*
4. *Турызм-уражанняў.*
5. *Крэатыўны турызм.*
6. *Экакультурны турызм.*

*1.Тэматычны турызм* – арганізацыя ўспрыняцце турыстамі дэстынацыі ў межах знаёмства з адным з аспектаў яе гісторыі і культуры. Культурныя тэматычныя маршруты ўяўляюць сукупнасць матэрыяльных і духоўных культурна-гістарычных аб'ектаў, якія злучаныя між сабою адной тэмай і канцэпцыяй яе раскрыцця ў ходзе рэалізацыі тура (маршруты, прысвечаныя пісьменнікам, героям, архітэктурным стылям, ваеннай тэматыцы).

Адметнасці тэматычнага турызму:

– Магчымасці інтэрпрэтацыі помніка ў адпаведнасці з інтарэсамі і культурным узроўнем турыстаў, да прыкладу, спецыялізаваныя турысты паглыбляюць свае веды, а турысты з агульнымі культурнымі інтарэсамі задавальняюцца інфармацыяй пра незнаёмую ім культурную дэстынацыю (маршрут «Культура барока»).

– Фармаванне пашыранага культурнага прадукту па-за межамі традыцыйнай музейна-экскурсійнай праграмы за кошт прыцягнення іншых відаў спадчыны (індустрыяльнай, літаратурнай, садова-паркавай, міфалогіі і містыкі) і за кошт камбінавання разнастайных традыцыйных і сучасных культурных рэсурсаў пад адной тэмай (маршрут «Шляхам геадэзічнай дугі Струвэ»).

– Аб'яднанне ў тэматычны культурны маршрут помнікаў, якія не з'яўляюцца дастаткова атракцыйнымі для турыстаў, помнікаў «другога» плана (мясцовы роварны маршрут «Шляхам драўлянай архітэктуры»).

– Такія напрамкі тэматычнага турызму, як індустрыяльны і гастранамічны змешваюць спадчыну і сучаснасць. «Тэматызацыя» турпрадукту дэстынацыі можа ствараццa на святкаванні юбілейных датаў (месцаў, людзей, падзей).

Магчымасці арганізацыі тэматычнага турызму ў Рэспубліцы Беларусь:

- унутраны тэматычны турызм (варыянты тэматычных маршрутаў);

- уяздны тэматычны турызм – транспамежныя культурныя тэматычныя маршруты.

2. *Арт-турызм* – найбольш модны турыстычны кірунак сучаснасці – турызм з дамінуючай матывацыяй да бягучых працэсаў мастацкай творчасці, вынікаў і працэсаў сучаснага мастацтва: наведванне мастацкіх галерэй і выставаў, тэатра, оперы, балета, канцэртаў, фестывалю, студый мастакоў, майстэрняў, крэатыўных кварталаў і мясцінаў, якія звязаныя з літаратурнымі творамі і кінафільмамі.

Прыклады: у 2006 г. Парыж перажыў нашэсце турыстаў пры адкрыцці музея культуры народаў Афрыкі, Акеяніі і Азіі, які быў пабудаваны побач з Эйфелевай вежай паводле праекту Жана Нувеля – зоркай сусветнай архітэктуры; Музей Гуггенхайма ў Більбао (Іспанія) – даход 250 мільн. еўра ў год за кошт экстравагантнага будынка музея і выставаў мадэрністаў ад Пікасо да нашых дзён; мастацкія ярмаркі і біянале (агляды, якія арганізоўваюцца раз у два гады), да прыкладу, маршрут «Гранд-Тур» – Венецыянскае біянале (алімпійскія арт-гульні, карнавал краін з сваімі дасягненнямі), міжнародная выстава «Дакумента» у Каселе (экспазіцыя больш 100 актуальных мастакоў і ідэй, праходзіць раз у пяць гадоў), Фестываль скульптуры (больш ста) у Мюнстэры; «Лонданскі трып» («Арт-Лондон», Zoo, Frieze – мастацкія ярмаркі, выставы, вернісажы), біянале ў арт-сталіцах Еўропы: Афінах, Маскве, Парыжы, Празе.

Для арт-турыстаў характэрна імкненне прыняць удзел у знакавых для мастацтва культурных акцыях, з'явах, падзеях – адчуць дух творчасці, прадэманстраваць сваю культурную кваліфікацыю, падзяліцца досведам з аднадумцамі. Арт-турызм у гэтым сэнсе перасякаецца з падзейным турызмам (выстава-ярмарка «Арт-Манеж», Масква). У межах арт-турызму арганізуюцца тэматычныя туры, якія прысвечаныя асобным аспектам мастацка-творчага жыцця дэстынацыі, развіццём мастацкіх стыляў (мадэрну) у архітэктуры, дызайну, ужытковым мастацтве, літаратуры. Арт-

тур можа быць спецыялізаваным і аглядна-пазнавальным – у залежнасці ад матывацыі турыстаў.

Арганізацыя арт-турызму ў Рэспубліцы Беларусь: варыянты маршрутаў.

*3. Падзейны культурны турызм* (альбо падзейны турызм – тут культурная складаемая будзе прысутнічаць у якасці пашыранага прадукту) – від турызму, матывацыі якога прывязаны да падзей у сферы культуры, спорту, бізнесу і г. д. (кінафестывалі, карнавалы, рок-фестывалі, міжнародныя конкурсы, эканамічныя форумы, адкрыццё новых музеяў, авіясалонаў, алімпійскія гульні, чэмпіянаты свету па футболе, хакею і інш.).

Тэматычныя віды падзейнага культурнага турызму:

1) нацыянальныя фестывалі і святы (ф-ль Св. Патрыка ў Лондоне, ф-ль культур у Берліне, нацыянальных культур у Гродна, святы гарадоў;

2) тэатралізаваныя шоў (свята на лёдзе, шоў «Romanza» (Нямеччына), шоў «Lord of the Dance» (Вялікабрытанія), ф-ль «Цырк будучага», Парыж;

3) фестывалі кіно і театра (кароткаметражных фільмаў у Оберхаузене (Нямеччына), Канскі ф-ль (Францыя), тэатралізаваны ф-ль «Spierlart» у Мюнхене (Нямеччына), ф-ль «Вішнёвы лес» (Масква), ф-ль率 опернага мастацтва ў Вероне (Італія);

4) модныя паказы (Ready to Wear, Men s Fashion, Парыж (Францыя), Milano Moda Bouna, Мілан (Італія);

5) фестывалі музыкі і музыкальныя конкурсы (ф-ль Capricies, Кранс Монтана (Швейцарыя), ф-ль «Снег і Сімфонія», Санкт Морыц (Швейцарыя), ф-ль поп музыкі Pink Pop, Ландграаф (Нідерланды), ф-ль джаза ў Монтрэ (Швейцарыя), у Стакгольме (Швецыя), музыкальны конкурс ім. П.І. Чайкоўскага, Масква (Расія), музыкальны конкурс «Еўрабачанне», ф-ль «Славянскі базар», Віцебск (Беларусь).

6) міжнародныя тэхнічныя салоны (авіясалон у Ле Буржэ, Парыж (Францыя), авіякасмічны салон у Жукоўскім (Расія), аўтасалон і «Салон гадзіннікаў» у Жэневе (Швейцарыя), аўтасалон у Маскве);

7) карнаваліі, карнавальныя туры (карнавал у Венецыі (Італія) – 10 дзён у лютым, больш 500 тыс. прыезджых турыстаў; у Нямеччыне 11 лістапада пачынаюцца карнавальныя дні ў Кёльне, Боне, Дусельдор-

фе і Майнцэ; у Ніццэ (Францыя) у карнавалах удзельнічае каля 1 млн. турыстаў).

8) мастацкія ярмаркі і біянале.

У развіцці падзейнага турызму вылучаюцца два аспекты:

**Тэхналагічны** (базіруецца на магчымасцях арганізацыі ў найбольш прываблівых для турыста формах забаўляльнасці, інтэрактыўнасці, змястоўных адносін між людзьмі, фармаванні ўражанняў і уменні «ажыўляць» стацыянарныя культурныя помнікі) **і іміджавы** (здольнасці да пашырэння папулярнасці дэстынацыі і стварэнне іміджу), што скарачае сезонныя ваганні і павялічвае колькасць турыстаў у тым ліку і за кошт паўторных наведванняў.

Магчымасці развіцця падзейнага турызму ў Беларусі. Падзеі міжнароднага значэння, нацыянальнага, рэгіянальнага як турыстычныя матывацыі.

*4. Турызм-уражанняў* даволі новы кірунак у культурным турызме. Узнік як рэакцыя на матывацыі турыстаў у больш актыўным удзеле ў працэсе ўспрыняцця і асэнсавання культурнага матэрыялу. Турыстам недастаткова «глядзець і слухаць», атрымліваць гатовую інфармацыю «з другіх рук», яны шукаюць магчымасці эмпірычнага ўспрыняцця навакольнага асяроддзя праз інтэрактыўную дзейнасць і ўздзеяння на яго стымуляцыяй эмацыянальна-пачуццёвай сферы, што ставарае ўнікальную і запамінальную «падзею» у жыцці турыста.

Выдзяляюцца тры базавыя стратэгіі фармавання ўражанняў:

**Прадукта-цэнтрычная** – пастаноўка «спектакля»: турысты выконваюць ролі гледачоў з рознай ступенню інтэрактыўнасці (у Еўропе распаўсюджаны святло-гукавыя прадстаўленні, радыёспектаклі, дзе акторы разыгрываюць розныя гісторыі. Другім прыкладам можа быць прэзентацыя «Савецкага бункера» у Вільнюсе з выкарыстаннем тэхналогій «машыны часу«: савецкая музыка і тэлеперадачы, допыты ў КДБ (прайсці «драму выжывання»), кухня, экскурсія і іншая савецкая стылізацыя вяртае турыстаў у СССР.

**Эка-цэнтрычная** – арыентаваная на стварэнне фону для бытавой і дзелавой дзейнасці турыстаў, якія нейкі час жывуць у дадзеным месцы, з ажыццяўленнем спажывецкіх паводзін (ежа, адпачынак, заба-

вы, пакупкі). Уражанне фармуецца пад уздзеяннем дызайну, бытавой і дзелавой інфраструктуры і культурнага асяродку дэстынацыі (гасцініцы, рэстараны, культурныя і забаўляльныя ўстановы, гандлёвыя цэнтры, сфера і стыль абслугі, архітэктура і інш.

**Крэатыў-цэнтрычная** – арыентаваная на рэалізацыю патрэбаў турыстаў у творчым самавыяўленні і духоўным развіцці на аснове іх практычнай дзейнасці.

**Характэрныя рысы турызму ўражання:**

- атрыманне поўнага ўяўлення пра дэстынацыю за кошт розных формаў удзелу турыстаў у культурным і сацыяльным жыцці мясцовых супольнасцей;
- вывучэнне такіх аспектаў культурнага жыцця дэстынацыі, якія выходзяць за межы праграм масавага турызму, альбо ўдзелу ў новых формах турыстычнай актыўнасці;
-развіццё кампетэнтнасці турыста ў галіне асабістых культурных інтарэсаў і фармаванне новых;
- рэалізацыя навыкаў і досведу праз спецыяльныя навучальныя праграмы;.
- развіццё духоўнага свету і атрыманне «духоўнай падпіткі».

Турызм уражання можа быць не звязаны да розных тыпаў культурных помнікаў і можа базіравацца на кожным з іх у розных спалучэннях. Ён адлюстроўвае тэхналагічны аспект рэалізацыі іншых відаў культурнага турызму, і вельмі блізкі да тэматычнага, экакультурнага, крэатыўнага і этнакультурнага турызму.

*5. Крэатыўны (creative – творчы) турызм* – гэта арганізацыя магчымасцей развіцця творчага патэнцыялу і духоўнага ўдасканальвання турыстаў за кошт непасрэднага ўдзелу ў культурна-навучальнай і пазнавальнай дзейнасці.

Асноўная матывацыя – прага да самаразвіцця, самапазнання і творчага самавыяўлення. Задача арганізатараў тура сінтэзаваць ім такія ўмовы, у якіх яны змаглі бы нешта адкрыць для сябе, знайсці, пазнаць, зразумець, атрымаць зарад энергіі і пазітыву. Галоўнае – гэта не месца, куды напраўляецца група, а ўражанні, не перамяшчэнні ў прасторы, а стварэнне адметнай атмасферы.

Характэрныя рысы:

– Магчымасці набыцця навыкаў і творчага досведу (маляванне, музыцыраванне, літаратурная творчасць, ужытковае мастацтва, фота - і кінатворчасць, танцы).

– Пошук духоўных каштоўнасцей, развіццё духоўнага свету чалавека на падставе навучальных духоўных практык (медытацыя).

Асаблівасці: крэатыўныя турысты затрымліваюцца на больш працяглы час. Развіццё такога турызму не патрабуе буйных інвестыцый.

Цэнтры і кірункі крэатыўнага турызму: Фларэнцыя (Італія) – маляванне фрэсак, майстар класы па шыццю абутку і вырабаў са скуры; Парыж – выпечка пахучых багетаў, курсы для турыстаў па вытворчасці парфумы; Бангкок (Тайланд) – урокі баявога майстэрства, курсы па падрыхтоўцы тайскай ежы; Буэнас-Айрэс (Аргентына) – танцуем танга; возера Ціцікака (на мяжы Перу і Балівіі) – пражыванне на плывучым востраве Урос і вучэнне мясцовым рамёствам; Паўд. Карэя – медытацыя з будыйскімі манахамі; Аўстрыя – урокі жывапісу і музыкі; Лондан – школы фотамайстэрства.

Апошнім часам сталі актыўна развівацца такія віды дзейнасці крэатыўнага турызму, як экшн-гульні, напрыклад: «Мафія», «Згублены свет», «Апошні герой», «Сталкер», інш. Да крэатыўнага турызму можна аднесці касмічны турызм (20-25 млн. дол.); дыгер-туры – шпацары па тунэлях, катакомбах, падзямельных камунікацыях; джайло-туры – пражыванне ў плямёнах індзейцаў, афрыканскіх, лацінаамерыканскіх і інш. этнічных групах; нью-эйдж-туры – курсы лекцый будыйскіх, тыбецкіх манахаў, пасяленне ў в'етнамскіх, кітайскіх, пакістанскіх храмах.

Крэатыўны турызм у Беларусі як самастойны віду турызму вылучыць пакуль што складана. Гутарка можа ісці пра спалучэнні іншых відаў турызму з крэатыўнымі праграмамі, да прыкладу, экакультурнага і крэатыўнага («Беларускі Маўглі» – школа выжывання ў лесе, альбо даследчыя зялёныя маршруты на ровары ці пяшком), этнакультурнага і крэатыўнага (правядзенне этнічных святаў, фестываляў і конкурсаў з разнастайнымі навучальнымі праграмамі народных промыслаў.

6. *Экакультурны турызм* рэалізуе інтарэсы ў фармаванні новага культурнага досведу ў форме актыўнага ўдзелу ў экалагічна-рэкрэацыйнай дэстынацыі з традыцыйным альбо сучасным укладам жыцця.

Экакультурны турызм адрозніваецца ад эколага-этнаграфічнага больш пашыраным выбарам культурнага прадукту (апошні мае характэрную прывязку да этнічнай культуры). Сувязь эка-этнакультурнага з экалагічным турызмам праяўляецца ў наведванні мясцін, якія захавалі сляды культуры гістарычных эпох, культурнабытавыя традыцыі і жывую культуру. Праводзіць межы між гэтымі відамі турызму складана і не мае сэнсу. У кантэксце культурнага турызму турыстам прапаноўваецца магчымасць дакрануцца да сучаснай жывой культуры, якая нясе ў сябе адбіткі традыцый у звыклым рытме жыцця, прывычках, ментальных стэрэатыпах і паўсядзённым укладзе.

Крытэрыі экакультурнага турызму:

- выкарыстанне ў якасці культурных аб’ектаў жывой культуры як спадчыны і як сучасны працяг традыцыйных формаў існавання насельніцтва.

- актыўны ўдзел турыстаў у працэсах жыццядзейнасці дэстынацыі і забеспячэнне непасрэдных кантактаў з носьбітамі традыцый жывой культуры. Экакультурны турызм, такім чынам, зарыентаваны на вывучэнне мясцовага самабытнага каларыту на аснове сапраўднага жыцця, а не яго інсцэніроўкі.

Такое тлумачэнне экакультурнага турызму дазваляе пашырыць спіс тыповых мясцін для наведвання: аграэкасядзібы, дамы, фермы, вёскі, кварталы кампактнага пражывання людзей (у адпаведнасці з этнічнай, нацыянальнай і канфесійнай традыцыяй), жылых кварталаў з сучаснай трансфармацыяй традыцый (музыкай, танцамі, кухняй, сацыяльнымі рытуаламі, быць у зносінах з мясцовымі жыхарамі, атрымліваць моўныя, гастранамічныя і іншыя навыкі, даследаваць мясцовы фальклор і вучыцца рамесніцтву.

## Пытанні для самаправеркі

1. *Што трэба разумець пад культурнай спадчынай?*
2. *Дайце характарыстыку тыпам культурнай спадчыны.*
3. *Якія аб’екты адносяцца да помнікаў гісторыі і культуры?*
4. *Што маем на ўвазе пад культурным ландшафтам? Пералічыце асноўныя кампаненты.*

5. *Што сабой уяўляе жывая традыцыйная культура?*
6. *Якія фактары ўплываюць адмоўна на змены (старэнне, разбурэнне, страты) культурнай спадчыны?*
7. *Якія аб’екты, падзеі, з’явы адносяцца да культурна-гістарычных рэсурсаў?*
8. *Паводле якіх патрабаванняў праводзіцца ацэнка культурна-гістарычных рэсурсаў?*
9. *Якія моманты неабходна даследаваць пры паэтапным развіцці саміх аб’ектаў (тэрыторыі, рэгіёну, дзяржавы)?*
10. *Якія якасці аб’ектаў вызначаюцца пры тэхналагічнай ацэнцы? Пры эстэтычнай ацэнцы?*
11. *Якія тэндэнцыі ўласцівыя сучаснаму турызму культурна-гістарычнай спадчыны?*
12. *Якія рэсурсы можна аднесці да новых тыпаў культурна-гістарычных аб’ектаў?*
13. *Што сабой уяўляюць цэнтры спадчыны? Якія вы ведаеце цэнтры спадчыны?*
14. *Што сабой уяўляюць тэматычныя паркі?Дайце характарыстыку.*
15. *Прывядзіце прыклады рэканструкцыі гістарычных падзей.*
16. *Назавіце вядомыя вам віды культурнага турызму.*
17. *У чым праяўляюцца адметнасці тэматычнага турызму?*
18. *Што такое арт-турызм? Прывядзіце прыклады.*
19. *Што з’яўляецца асноўнай тэматыкай падзейнага турызму? Прывядзіце прыклады.*
20. *Дайце характарыстыку «карнавальным» турам.*
21. *Дайце характарыстыку базавым стратэгіям фармавання ўражанняў.*
22. *Якімі рысамі характарызуецца турызм уражанняў?*
23. *Што сабой уяўляе крэатыўны турызм?*
24. *Якімі крытэрыямі характарызуецца эка-культурны турызм?*
25. *Якія віды міжнароднага культурнага турызму з’яўляюцца найбольш папулярнымі і перспектыўнымі?*
26. *Якія віды культурнага турызму з’яўляюцца найбольш папулярнымі і перспектыўнымі ў Беларусі?*
27. *Распрацуйце турыстычныя маршруты па Беларусі паводле ўсіх відаў культурнага турызму.*
28. *Што можна прапанаваць турыстам у якасці трансгранічнага культурнага турызму?*

# Тэма 3. Этнакультурны турызм

## **Лекцыя 7.** Этнакультурны турызм: асаблівасці, спецыфіка, віды.

1. *Уяўленне пра этнакультурны турызм.*
2. *Этнакультурны турыстычны патэнцыял тэрыторыі.*
3. *Віды этнакультурнага турызму.*

### 1. *Уяўленне пра этнакультурны турызм.*

Такія паняткі, як *этнакультурны турызм, этнаграфічны турызм і этнічны турызм* звычайна асэнсоўваюцца і падаюцца як сінонімы. Аснову этнічнага турызму складае культурная традыцыя этнасу. Пад такой культурнай традыцыяй можна зразумець, як асобныя перыяды развіцця этнічнай культуры, так і ўсю культурна-гістарычную спадчыну этнасу, што ўяўляе сабой фундаментальную аснову рэсурсаў этнакультурнага турызму. Пры такім разуменні размежаваць *этнічны, этнаграфічны і этнакультурны турызм* вельмі складана, але пастараемся гэта зрабіць. Тэрмін *этнакультурны турызм* з'яўляецца найбольш абагульняючым, ён яднае і этнічны турызм і этнаграфічны і іншыя віды этнатурызму.

**Этнакультурны турызм** – формы турыстычнай актыўнасці, абумоўленыя зваротам да рэгіянальных і лакальных аспектаў этнічнай культуры, традыцый этнічных груп, народнасцей і тэрытарыяльных супольнасцей у іх культурна-гістарычным і сучасным развіцці ў мэтах пазнання, фіксацыі і папулярызацыі жыццёвага досведу, навыкаў, светапогляду і адметных праяваў прыродакарыстання.

2. *Этнакультурны турыстычны патэнцыял тэрыторыі* ўяўляе сабой сукупнасць розных катэгорый аб'ектаў і з'яваў сацыякультурнага, этнаграфічнага, гістарычна-культурнага, прырода-экалагічнага і эканамічнага парадку, значных і важных для арганізаванага і самадзейнага этнакультурнага турызму.

Асобныя катэгорыі этнакультурных аб'ектаў утвараюць этнаграфічныя вёскі і паркі, этнаграфічныя, краязнаўчыя, гісторыка-краязнаўчыя і архітэктурна-гістарычныя музеі, гісторыка-культурныя і

прыродныя музеі-заказнікі, а таксама захаваны этнакультурны каларыт сельскага пасялення і гарадскія кварталы.

**Этнакультурныя ландшафты** падтрымліваюць традыцыйны ўклад жыцця з усімі яго атрыбутамі: побыт, архітэктура, кухня, промыслы, звычаі, фальклор.

**Этнакультурныя цэнтры, этнічныя кварталы, этнаграфічныя вёскі, вуліцы майстроў** захоўваюць тыя ці іншыя элементы традыцыйнага ўкладу жыцця і адметнасці этнічнай культуры.

*3. Віды этнакультурнага турызму (этнічны, настальгічны, этнаграфічны, эколага-этнаграфічны, этнапазнавальны, альбо этна-экскурсійны, антрапалагічны, альбо спосабу жыцця)*[6].




1.*Этнічны турызм* – падарожжы ў мэтах вывучэння, далучэння да традыцыйнай (альбо сучаснай) культуры народаў, іх бытавому ўкладу і спосабу жыцця. У гэтым кантэксце этнічны турызм можна трактаваць як з'яву, адпаведную абарыгеннаму турызму. Звычайна *этнічны турызм* апраўданы ў тым выпадку, калі турыстам даецца магчымасць дакрануцца да культурных адметнасцей народных супольнасцей, якія не з'яўляюцца дамінуючымі ў сацыякультурным жыцці і дзяржаўнастваральным працэсе той ці іншай краіны. Такім чынам, пад этнічным турызмам варта

6 Выкарыстана табліца паводле: Бутузов, А.Г. Этнокультурный туризм: Учебное пособие / А.Г. Бутузов. – М.: КноРус, 2013.

было б разумець такія падарожжы і іх арганізацыю, якія знаёмяць і далучаюць да культурна-гістарычнай традыцыі этнасаў і сучаснай традыцыі этнічных супольнасцей і нацыянальных меншасцей. Яскравым прыкладам этнічнага турызму з’яўляюцца туры ў паўночныя рэгіёны Расіі – месцы пражывання эвенкаў, якутаў, чукчаў. Альбо падарожжы з мэтамі больш цеснага знаёмства з абарыгенамі некаторых лацінаамерыканскіх краінаў ці астравоў Акеаніі.

У Беларусі адсутнічаюць этнасы з адпаведным узроўнем культуры, але гэта не факт таго, што этнічны турызм не мае перспектывы для свайго развіцця, Па-першае, можна скарыстаць багаты этнагенез беларусаў, распрацаваць адпаведныя праграмы (рэканструяваць і ствараць новыя аб’екты), якія займальна маглі б даводзіць інфармацыю пра жыццё і культуру крывічаў, радзімічаў, дрыгавічоў, яцьвягаў, літвінаў і г.д. Па-другое, у Беларусі пражывае больш 30 нацыянальных супольнасцей, якія захавалі і захоўваюць свае этнічныя адметнасці, што, дарэчы, можна ўбачыць на фестывалі нацыянальных культур у г. Гродна. Пры тым, некаторыя з гэтых супольнасцей маюць вельмі багатыя культурна-гістарычныя традыцыі сумеснага пражывання на этнічных землях Беларусі (татары, палякі, літоўцы, яўрэі) – усё гэта можна было б выкарыстаць для распрацоўкі адпаведных маршрутаў этнічнага турызму ў Беларусі. Да прыкладу, «Сотні гадоў разам: шляхам яўрэйскай культуры», «Татарскім шляхам» і інш.

*2. Настальгічны турызм*

У турыстычнай практыцы *этнічны турызм* часта памылкова падмяняюць тэрмінам *настальгічны турызм,* што не зусім апраўдана з пазіцыі вылучэння аддзельных сегментаў рынку і тураперэйтынгу. Нагадаем, што пад *настальгічным турызмам* маем на ўвазе паездкі, якія матываваныя пазнаннем культуры свайго народа, этнічных прашчураў з наведваннем мясцін і тэрыторый свайго папярэдняга пражывання, альбо пражывання сваіх прашчураў і сваякоў, што нашмат абмяжоўвае яго магчымасці як *этнічнага* і *этнакультурнага турызму*. Пры такім ракурсе спецыфіка арганізацыі тураў *настальгічнага і этнічнага турызму* істотна адрозніваецца адна ад другой, што дае падставы для вылучэння *настальгічнага і этнічнага турызму* як асобных падвідаў *этнакультурнага*

*турызму*. У якасці настальгічнага можа быць выкарыстаны згаданы ўжо намі тур «Сотні гадоў разам…», толькі спецыялізаваны для канкрэтнай групы спажыўцоў з-за мяжы, якія хацелі б дакрануцца да тых ці іншых блізкіх і родных сабе мясцінаў на сваёй гістарычнай радзіме альбо радзіме прашчураў.

Настальгічны турызм у большасці выпадкаў адносіцца да ўязднога тыпу турызму асобаў пажылога ўзросту; мае выражаную лакалізацыю, што звязана з масавымі ад'ездамі і прыездамі насельніцтва. Вядучымі краінамі-донарамі настальгічнага турыстычнага трафіку для Беларусі з'яўляюцца Ізраіль, Расія і рэспублікі былога СССР, Польшча, ЗША, Канада – краіны, куды ў розныя часы з розных прычын імкнуліся перасяленцы.

*3.Этнаграфічны турызм* з'яўляецца асобным падвідам *этнакультурнага турызму* як найбольш распаўсюджаны від этнатурызму ўвогуле. Паводле агульнапрынятай класіфікацыі пад *этнаграфічным турызмам* маецца на ўвазе арганізацыя падарожжаў з мэтай вывучэння, далучэння да традыцыйнай (даіндустрыяльнай) народнай культуры тых ці іншых этнічных груп.

Да этнаграфічных рэсурсаў фармальна не адносіцца ўсё культурнае багацце і разнастайнасць гарадскога асяродку аграрнай эпохі, нясельскія ўклады жыцця і феномены. Этнаграфічная спадчына ахоплівае: этнагенез і этнічную гісторыю, матэрыяльную (прылады працы, жыллё, адзенне, ежа і інш.) і духоўную (народная творчасць, светапогляд, традыцыі, звычаі, абрады, вераванні, народныя веды ў галіне медыцыны, метэаралогіі, метралогіі і інш.) культуры, сямейны, грамадскі і вытворчы побыт народаў. Этнаграфічная спадчына звычайна атаясамліваецца з народнай культурай, што сёння пад пагрозамі глабалізацыйных працэсаў уяўляе асаблівую зацікаўленасць як культура непаўторная, унікальная і знікаючая.

Этнаграфічны турызм у Беларусі мае найбольш шанцаў і перспектыў стаць адным з асноўных падвідаў культурнага турызму паводле свайго багатага і разнастайнага рэсурснага патэнцыялу. У першую чаргу тут варта згадаць унікальныя этнаграфічныя матэрыялы гісторыка-археалагічных, краязнаўчых і літаратурных музеяў рэспубліканскага,

абласнога і раённага ўзроўняў, а таксама рэдкія этнаграфічныя экспанаты школьных музеяў і прыватных збораў-калекцый. Праўда, такія музеі сёння становяцца прарэгатывай *этна-экскурсійнага* туру, альбо выступаюць у якасці аб'ектаў пашыранага і дадатковага турпрадукту пры іншых відах турызму. Характэрным прыкладам этнаграфічнага турызму з'яўляюцца арганізаваныя паездкі па этнаграфічных вёсках (з аўтэнтычнай архітэктурай ці стылізаванай пад даўніну) з насычанымі пазнавальнымі і крэатыўнымі праграмамі па народных промыслах, нацыянальнай кухні, песеннай і танцавальнай народнай культурай. Асаблівым попытам у свеце карыстаюцца спецыяльныя музеі пад адкрытым небам – скансэны (першы такі музей быў створаны ў Швецыі ў 1891 г.). Прыцягваюць увагу турыстаў, у тым ліку і міжнародных, беларускія скансэны: музейны комплекс старажытных народных промыслаў і тэхналогій у в. Дудуткі, Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і быта ў в. Строчыцы, «Беларуская этнаграфічная вёска XIX ст.» на ўскраіне Магілёва (в. Буйнічы).

*4. Эколага-этнаграфічны турызм* – падарожжы з мэтамі далучэння да самабытнай культуры розных этнатэрытарыяльных супольнасцей у звычайным, штодзенным асяродку іх пражывання.

- Сумежнае становішча з экалагічным турызмам. Этнаграфічныя аграэкасядзібы.
- Акцэнт робіцца на традыцыйныя і сучасныя сістэмы жыццязабеспячэння.

5. *Этнапазнавальны, альбо этна-экскурсійны турызм* – падарожжы ў мэтах комплекснага вывучэння этнічных культур у гістарычнай рэтрэспектыве.

Матывацыяй з'яўляецца любоў да гісторыі, археалогіі, этнаграфіі, спосабу жыцця насельніцтва.

Развіццё этна-экскурсійнага турызму забяспечвае этнакультурная разнастайнасць старажыльнага насельніцтва пры высокай ступені захаванасці рэгіянальных і лакальных традыцый прыродакарыстання.

*6. Антрапалагічны, альбо спосабу жыцця турызм* – паездкі, якія абумоўленыя жаданнем далучыцца да спосабу і ладу жыцця тых ці іншых этнакультурных супольнасцей, сучасных (сацыякультурны турызм) аль-

бо мінулых эпох (рэтратурызм). Асаблівасці: аднаўленне (рэстаўрацыя) этнічных культур мінулага часу і захаванне традыцый існуючых культур. Дэстынацыя – тэрыторыя этнакультурнага ландшафту, багатая на гістарычныя падзеі, археалагічны матэрыял і архітэктурныя помнікі.

Пералічаныя віды этнакультурнага турызму дапушчальны тэарэтычна, але наўрад ці яны будуць апраўданы ў турыстычнай практыцы – трэба быць вельмі асвядомленым не толькі тураператам, але яшчэ і этнолагам і культуролагам, каб беспамылкова разабрацца ў такіх этнакультурных тонкасцях пры фармаванні турпрадукту і вызначэнні адпаведнага падвіду этнакультурнага турызму. Усе магчымыя варыянты – падвіды – могуць рэалізоўвацца ў межах аднаго тура, а менавіта: тура этнакультурнага турызму.

## **Лекцыя 8.** Спецыфіка рынку, умовы і тэндэнцыі развіцця этнакультурнага турызму

1. *Спецыфіка рынку этнакультурнага турызму.*
2. *Умовы сістэмнага развіцця этнакультурнага турызму.*
3. *Тэндэнцыі развіцця міжнароднага этнакультурнага турызму.*
4. *Этнакультурны турызм у Беларусі.*

1. Спецыфіка рынку этнакультурнага турызму характарызуецца наступнымі фактамі:

- прагрэсуючы попыт на жывую культуру, жывую прыроду, аўтэнтычнасць аб’ектаў і натуральнасць;
- істотны уплыў узроставага і адукацыйнага цэнзу на выспяванне адпаведных матывацый;
- схільнасць да адпаведных падарожжаў асобаў сярэдняга ўзросту і пенсіянераў;
- фактор сезоннасці ў этнакультурных падарожжах праяўляецца значна менш, чым у масавых відах падарожжаў;
- рост зацікаўленасці да крэатыўнага зместу праграм (вуліца майстроў, этнічны квартал, этнаграфічная вёска); паніжэнне цікавасці да музейна-экскурсійных праграм;
- у большасці выпадкаў этнакультурная матывацыя кліентаў не з’яўляецца прыярытэтнай, а этнакультурны тур насычаецца праграмамі з разнастайнымі турыстычнымі патрэбамі;

- рост колькасці індывідуальных паездак у структуры этнакультурных тураў;
- параўнальна нізкі ўдзел у этнакультурным турызме сем'яў;
- сярод падарожнікаў большасць асобаў, зацікаўленых у разнастайнасці ўражанняў і з адчувальным дэфіцытам вольнага часу, але не фінансавых сродкаў;
- адсутнасць спецыялізаваных турфірм па этнатурах;
- падабенства турыстычных матывацый аматараў розных праяваў этнакультуры – падвідаў этнакультурнага турызму – дае магчымасці да аб'яднання адпаведных сегментаў рынку ў рамках аднаго і таго ж тура;
- паводле адметнасцей турыстычных рэсурсаў, матывацый удзельнікаў, патрабаваннямі да менеджмэнту і адпаведнай кваліфікацыі прафесійных кадраў этнакультурны турызм з'яўляецца самастойным відам турызму;

## *2. Умовы сістэмнага развіцця этнакультурнага турызму.*

1. Вывучэнне этнакультурных ландшафтаў паводле наступных крытэрыяў:

Узнікненне і развіццё. Багацце і разнастайнасць. Спецыфічнасць і ўнікальнасць. Ступень захаванасці і дыферэнцыяцыі. Эстэтычнасць і камфортнасць. Змястоўнасць і ўстойлівасць.

2. Распрацоўка тэарэтыка-метадалагічных асноваў тураперэйтынгу айчыннага этнакультурнага турызму, у прыватнасці, сумесная праца прадстаўнікоў навукі і прафесійных тураператараў па ўкараненні спецыфічных інавацыйных арганізатарскіх і маркетынгавых стратэгій.

3. Пашырэнне і абавязковая ўніфікацыя тэрміналагічнага апарату тэорыі і практыкі этнакультурнага турызму ў навукова-педагагічным і прафесійным арганізацыйным асяродку.

4. Фармаванне кваліфікацыйных патрабаванняў да прафесійных арганізатараў этнакультурнага турызму на вывучэнне і паглыбленне ведаў этнакультурнай сферы і выпрацоўкі навыкаў фармавання высокаякаснага этнакультурнага турыстычнага прадукту.

5. Абгрунтаванне мэтазгоднасці аб'ёмаў і структуры інвестыцый канкрэтных праектаў прасторавай арганізацыі этнакультурнага турызму.

### *3. Тэндэнцыі развіцця міжнароднага этнакультурнага турызму*

Цікавасць да гісторыі, культуры, быту і традыцый іншых народаў выступае важным каталізатарам этнакультурнага турызму. Дамінуючай матывацыяй пры гэтым з'яўляюцца наведванні існуючых пасяленняў, дзе захаваліся асаблівасці традыцыйнай культуры і быту. Такія мясціны з'яўляюцца дэманстрацыйнымі і паказальнымі; яны бываюць пастаяннымі і часовымі (качэўнікі, паляўнічыя, вандроўнікі, збіральнікі). Шматлікія турыстычныя маршруты праходзяць праз іх. Так, турысты ў Егіпце наведваюць стаянкі бедуінаў у час сафары па пустыні на джыпах. Тыповым прыкладам могуць быць паездкі ў рэзервацыі індзейцаў у ЗША і іншыя рэгіёны Паўн. і Паўдн. Амерыкі. Этнічныя маршруты пракладзены ў Афрыцы і Блізкім Усходзе, у Аўстраліі і на астравах Акеаніі, у гарах Паўн. Індыі і Паўн. Тайланда, у паўночных і ўсходніх рэгіёнах Расіі. Важнай матывацыяй этнакультурнага тура могуць быць знаёмствы з музеямі народнага побыту, у тым ліку і з музеямі пад адкрытым небам. Першы такі музей быў ствоpраны ў 1891 г.у Швецыі. Ён атрымаў назву Скансэн. У ім сабраны ўсе традыцыйныя забудовы Швецыі, праводзяцца фэсты і дэманструецца нацыянальная культура. Папулярным кірункам этнакультурнага крэатыўнага турызму з'яўляецца ганчарнае мастацтва і промыслы ў Барселоне (Іспанія), дзе турыстам прапануецца пражыванне ў каталонскіх сем'ях, знаёмства з мясцовымі звычаямі і традыцыямі. Такія метады папулярныя ўва ўсім свеце.

У Расіі пражывае болей за 180 народнасцей, і большасць з іх захавалі свае традыцыі, культуру, промыслы, што з'яўляецца базавым патэнцыялам этнакультурных тураў. Гэта этнаграфічны музей-заказнік «Торум Маа» у Ханты-Мансійску, нацыянальная вёска рускай Поўначы Пажарышча ў Валагодскай вобл., этнаграфічная вёска Мартынава Яраслаўскай вобл., сталіца субэтнасу кацкараў, Суздальскі музей драўлянага дойлідства, Рунапеўчыя вёскі Карэліі… Прапануецца ўвазе дзесяткі розных этнатураў: *«Окажись в русской сказке»* – тур па мясцінах тра-

дыцыйных расійскіх народных промыслаў (Гусь-Хрустальнаму, Гжелі, Гарадцу, Шостава, Паўлову Пасаду і г.д.); *«Кавказский дом»*– этнаграфічная праграма пра народы Карачаева-Чаркесіі; *«Путешествие в страну духов»* – экскурсійныя туры па Алтаі; *«Саянское кольцо»* – этнаграфічны фестываль Краснаярскага краю і Тувы; *«Путешествие по Амуру»* – знаёмства з самабытнай культурай тунгуса-маньчжурскіх плямёнаў; *«Шаманские туры»* - этнатуры па Байкальскім рэгіёне. Разнастайныя этнапраграмы прапануюць башкіры, калмыкі, чувашы, татары, якуты і іншыя народы Расіі.

*4. Этнакультурны турызм у Беларусі* мае ўсе перспектывы для паспяховага развіцця, пра што сведчаць наступныя фактары:

– багаты этнагенез беларусаў, на падставе якога можна распрацаваць адпаведныя праграмы (рэканструяваць і стварыць новыя аб'екты), якія займальна маглі б даводзіць інфармацыю пра жыццё і культуру крывічаў, радзімічаў, дрыгавічоў, яцьвягаў, літвінаў і г.д. Да прыкладу маршрут : «У госці да радзімічаў» (в. Буйнічы, Магілёўскі р-н);

– беларускі фальклор – адзін з багацейшых у свеце: міфы, легенды, паданні, абрадавая і вусная народная творчасць, гульні, святы – усё гэта можа быць добрым тэматычным матэрыялам для анімацыйнай і атракцыйнай дзейнасці. Так, у Пастаўскім цэнтры турпаслуг створаны фальклорна-міфалагічны комплекс «Азяркі», дзе жывуць Зюзя Паазёрскі, Валасень, Дамавік, Лазнік, Хапун, Шоша, а ў «Галерэі духаў» можна ўбачыць Дзеда Гаёвага, Баламуценя, Зазоўку і інш. міфічных істотаў. Абрад «Калядныя Цары» (в. Семежава, Капыльскі р-н), уключаны ў Спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны ЮНЭСКА. Адноўлены абрад «Цягнуць Каляду на дуба» (в. Навіны, Беразінскі р-н), народныя гульні «Жаніцьба Цярэшкі» (в. Аношкі, Лепельскі р-н), дзіцячы калядны абрад «Куры» (Клічаўскі р-н), абрад «Юраўскі карагод» (в. Погост, Жыткавіцкі р-н), абрад «Стрэлка» (в. Бездзеж, Драгічанскі р-н). У многіх мястэчках і гарадах традыцыйна адзначаюць Каляды, Масленіцу, «Гуканне вясны», Юр'еў дзень, Купалле, «Дажынкі». Абрады«Багач», «Брама», «Выкуп», «Вялікдзень», «Дажынкі» і іншыя рэканструяваны ў многіх раёнах (Гродзенскі, Ваўкавыскі, Воранаўскі, Лідскі, Зэльвенскі, Шчучынскі і інш.) Гродзенскай вобл. Інфармацыю пра іх можна атрымаць у абласным і раённых цэнтрах і дамах народнай творчасці. Перыядычна

праходзяць фестывалі этнакультурных традыцый «Зоў Палесся» (Нацыянальны парк «Прыпяцкі), фольк-фестываль «Камяніца» (Мінскі р-н), фестываль народнага гумару ў Аўцюках (Гомельская вобл., Калінкавіцкі р-н), фестываль сельскага турызму «Заборскі фэст» (Віцебская вобл., Расонскі р-н), фестываль народнай творчасці «Напеў зямлі маёй» (Мінская вобл.), міжнародны фестываль народнай творчасці «Вянок дружбы» (Бабруйск), рэспубліканскі фестываль нацыянальных культур у Гродна, рэспубліканскі фальклорны фестываль «Берагіня» (Гомельская вобл., м. Кастрычніцкі), свята «Купалле», «Александрыя збірае сяброў» (Магілёўская вобл., Шклоўскі р-н), »Зялёныя cвяткі»(г. Магілёў), «Траецкі фэст» (г. Мар'іна Горка), «Прылуцкія Крыніцы» (Мінскі р-н) і інш;

– багатая этнаграфічная спадчына: прадметы быту і працы, дойлідства, адзенне, народная кухня і медыцына. Этнаграфічныя экспанаты знаходзяцца ў кожным гістарычным і краязнаўчым музеі. Гонар беларускай культуры – нацыянальны касцюм з бела-чырвоным каларытам і сімвалічнай вышыўкай (налічваецца больш 30 разнавіднасцей). У в. Бездзеж (Драгічанскі р-н) знаходзіцца адзіны ў свеце музей фартухоў. На этнакультурных і кулінарных фестывалях, у этнаграфічных комплексах і сядзібах можна паспрабаваць напоі і стравы беларускай кухні: (музейны комплекс «Дудуткі»,Беларуская этнаграфічная в. XIX ст., Горналыжны комплекс «Лагойск» – «Гасціны маёнтак», «Пушчанскі» (Белавежская пушча), турыстычны агракомплекс «Каробчыцы» (Гродзенскі р-н). У спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны Беларусі занесены такія стравы, як «масляны баран» і ржаны хлеб. Апрача гэтага у гарадах і мястэчках праводзяцца фестывалі малака, бульбы, квасу, піва, сыра, цукерак, яблыкаў, агуркоў, мёду, журавінаў. У апошнія гады папулярнымі сталі: кулінарны фестываль «Мотальскія прысмакі» (Іванаўскі р-н), фестываль «Цукеркавы фэст» (м. Івянец, Валожынскі р-н), экалагічны фестываль «Жураўлі і журавіны Міёрскага краю», Дзень агуркоў у Шклове, «Вішнёвы фестываль» (г. Глыбокае, Віцебская вобл.), сырныя фестывалі ў Мінскім р-не і ў г. Гродна;

– народныя промыслы і рамёствы: кавальства, ганчарства і кераміка, ткацтва і вышыўка, салома і лазапляценне, цяслярства і бон-

дарства, разьба па дрэве, выцінанка. Вырабы майстроў захоўваюцца ў музеях як гістарычная каштоўнасць; некаторыя з іх сталі сапраўдным набыткам і сімвалам краіны: слуцкія паясы, ільняныя лялькі-абярэгі, падвойныя дываны, ручнікі з в. Няглюбка (Веткаўскі р-н); на міжнародных выставах у Нью-Ёрку, Манрыяле, Токіа, Парыжу, Брусэлі ручнікі адзначаны залатымі медалямі. У 2012 г. у в. Няглюбка ўпершыню быў праведзены фэст беларускага ручніка. У кожным раёне Беларусі ёсць Дамы рамёстваў, дзе вывучаюць прыёмы і тэхналогіі старых майстроў дэкаратыўна-ужытковага мастацтва, робяцца выставы і майстар-класы. У шмат якіх рэгіёнах праводзяцца спецыяльныя «гарады майстроў», ярмаркі народных промыслаў («Млын», г. Мінск, «Казюкі», г. Гродна, «Камарова – кола дзён», Мядзельскі р-н.), міжнародны плэнэр па кераміцы «Арт-Жыжаль» (г. Бабруйск), конкурсы народных умельцаў: «Саламяныя дзівосы» і «Разьбы зачараванне» у г. Мядзелі, «Матчыны кросны» (Старадарожскі р-н).

– у Рэспубліцы Беларусь пражывае каля 30 нацыянальных супольнасцей, якія захавалі і захоўваюць свае этнічныя адметнасці, што, дарэчы, можна ўбачыць на фестывалі нацыянальных культур у г. Гродна. Пры тым, некаторыя з гэтых супольнасцей маюць вельмі багатыя культурна-гістарычныя традыцыі сумеснага пражывання на этнічных землях Беларусі (татары, палякі, літоўцы, яўрэі) – усё гэта можна выкарыстаць для распрацоўкі адпаведных маршрутаў этнічнага турызму. Да прыкладу, «Сотні гадоў разам: шляхам яўрэйскай культуры», «Татарскім шляхам» і інш.

## Пытанні для самаправеркі

1. *Што такое этнакультурны турызм?*
2. *Што сабой уяўляе этнакультурны турыстычны патэнцыял тэрыторыі?*
3. *Якія атрыбуты ўваходзяць у этнакультурныя ландшафты?*
4. *Дайце характарыстыку этнакультурным цэнтрам, этнічным кварталам, этнаграфічным вёскам.*
5. *Што вы можаце расказаць пра тэндэнцыі развіцця міжнароднага этнакультурнага турызму?*
6. *Назавіце вядомыя вам віды этнакультурнага турызму.*

7. *У чым праяўляюцца адметнасці этнічнага турызму?*
8. *Якія матывацыі з'яўляюцца асноўнымі пры настальгічным турызме?*
9. *Якімі рысамі характарызуецца настальгічны турызм?*
10. *У чым розніца між настальгічным і этнічным турызмам?*
11. *Дайце тлумачэнне этнаграфічнаму турызму.*
12. *Якія рэсурсы складаюць аснову этнаграфічнага туру?*
13. *Ахарактарызуйце эколага-этнаграфічны турызм.*
14. *У чым праяўляецца сутнасць этнапазнавальнага, альбо этна-экскурсійнага турызму?*
15. *Дайце характарыстыку антрапалагічнага, альбо спосабу жыцця турызму.*
16. *Якімі асноўнымі фактамі вызначаецца спецыфіка рынку этнакультурнага турызму?*
17. *Якія ўмовы з'яўляюцца неабходнымі для сістэмнага развіцця этнакультурнага турызму.*
18. *Паводле якіх крытэрыяў праводзіцца вывучэнне этнакультурных ландшафтаў?*
19. *Якія віды этнакультурнага турызму з'яўляюцца найбольш папулярнымі і перспектыўнымі ў Беларусі?*
20. *Што вам вядома пра этнакультурны турыстычны патэнцыял Беларусі?*
21. *Як можна скарыстаць этнагенез беларусаў у сферы турындустрыі?*
22. *Дайце харатарыстыку беларускаму фальклору з пазіцыі турыстычнага інтарэсу.*
23. *Прывядзіце прыклады рацыянальнага выкарыстання багатай этнаграфічнай спадчыны ў сферы турындустрыі.*
24. *Дайце характарыстыку народным промыслам і рамёствам як элементам турыстычнага прадукту.*
25. *Распрацуйце турыстычныя маршруты па Беларусі паводле ўсіх відаў этнакультурнага турызму.*
26. *Што можна прапанаваць турыстам у якасці трансгранічнага этнакультурнага турызму?*

# Тэма 4. Культурны прадукт для турызму

## **Лекцыя 9.** Фармаванне прадукту культурнага турызму

1. *Узроўні культурнага прадукту.*
2. *Фармаванне тура яе комплекснага турпрадукту.*
3. *Фармаванне прадукту на ўзроўні асобнага культурнага помніка.*
4. *Матывацыі спажывання культурнага прадукту.*

*1.Узроўні культурнага прадукту.* Фармаванне прадукту культурнага турызму праходзіць на двух узроўнях: 1) фармаванне тура як комплекснага турпрадукту з культурным зместам рознага маштабу адпаведна ўзроўням культурнага турызму; 2) на ўзроўні аддзельнага культурнага аб'екта (агульнай канцэптуальнай аснове, тэме).

Метадалагічнай асновай культурнага зместу фармавання прадукту можа служыць мадэль шматузроўневага прадукту (Т. Левіт, Ф. Котлер) паводле якой вылучаем наступныя ўзроўні:

ядро прадукту складаецца з фундаментальнай карысці (выгады) – галоўных патрэбаў, жаданняў, прычынаў, паводле якіх набываецца прадукт

і родавага прадукту (канкрэтная форма задавальнення);

чакаемы прадукт уяўляе сабой рэальнае ўвасабленне родавага прадукту і ўсё, што спадарожнічае яму (кошт, тэрміны, паслугі, знешні выгляд і гасціннасць персаналу і г.д.).

пашыраны прадукт – частка новых дадатковых пераваг і паслуг, якія адрозніваюць дадзены прадукт ад рыначных аналагаў. З часам пашыраны прадукт робіцца чакаемым.

патэнцыяльны прадукт складаецца з усяго, што дасягальна і рэалізуема ў перспектыве для ўтрымання кліентуры – рэсурсны патэнцыял развіцця прадукту на аснове магчымасцей рэсурснага патэнцыялу дэстынацыі.

### *2.Фармаванне тура яе комплекснага культурнага турпрадукту.*

Комплексны культурны турпрадукт уяўляе сабой «набор» (пакет) розных культурных кампанентаў, склад якіх вызначаецца дзей-

насцю людзей у дэстынацыі. Аналіз матывацыі розных катэгорый турыстаў дазваляе ўдакладніць месца спажывання культурных аб'ектаў на ўзроўнях турпрадукту: выгада – родавы турпрадукт, чакаемы, пашыраны, патэнцыяльны. Для прафесійнага культурнага турызму фундаментальнай карысцю будзе з'яўляцца прафесійная самарэалізацыя на ўзроўні чакаемага прадукту (удзел у культурным мерапрыемстве, абмен творчымі ідэямі, поглядамі і досведам), але праграма прапануе больш шырокае знаёмства з культурай дэстынацыі на ўзроўнях пашыранага і патэнцыяльнага прадуктаў у залежнасці ад прафесійнасці турыстаў і іх спецыялізацыі (паглыбленне ведаў, пазнанне, рэлаксацыя, забавы, нацыянальна-культурная ідэнтыфікацыя, павышэнне прэстыжу і г.д.).

*3.Фармаванне прадукту на ўзроўні асобнага культурнага помніка.* Выкарыстанне шматузроўневай мадэлі ажыццяўляе адаптацыю помніка паводле інтарэсаў, запросаў, характарыстык і культурнага, псіхафізічнага і сацыяльнага статусу турыстаў. На базе аднаго помніка можна стварыць некалькі версій турпрадукту; са зменай тэмы, камбінацыяй культурных рэсурсаў ў розных спалучэннях і выкарыстоўваючы пры гэтым культурны патэнцыял наведвальнікаў.

4.*Матывацыі спажывання культурнага прадукту* ў турызме займаюць цэнтральнае месца ў фармаванні яго канцэпцыі. Пры гэтым важна мець на ўвазе асаблівасці культурнай матывацыі, якой характэрны наступныя фактары:

1) унутраныя фактары: суб'ектыўныя патрэбы і жаданні, культурны і інтэлектуальны ўзровень, індывідуальныя і псіхалагічныя асаблівасці, сістэма каштоўнасцей, схільнасці, адукацыя і прафесійная спецыфіка турыстаў;

2) знешнія фактары – прыцягальная моц культурнай дэстынацыі, яе ўнікальнасць, неардынарнасць, геніяльнасць;

3) поліматывацыйнасць – гама ўнутраных матываў; базавая трыяда матывацыі – зацікаўленасць, сацыяльнае ўзаемадзеянне, расслабляльны адпачынак;

4) псіха-фізіялагічная патрэба ў змене рытму жыцця (адыход ад паўсядзённай руціны, пошук натхнення, забаўляльнасць, дапытлівасць, стымуляцыя жыццёвага тонусу);

5) расслабленне як працэс рэкрэацыі (наведаванне розных відовішч, мерапрыемстваў, шпацары, экскурсіі);

6) забава як рэабілітацыя жыццёвых сіл, збаўленне ад нудоты;

7) абуджэнне жыццёвых сіл – мабілізацыя інтэлектуальных і эмацыянальных рэсурсаў чалавека (гульні, імітацыя рызыкі);

8) пазнанне – задавальненне дапытлівасці, павышэнне культурна-адукацыйнага узроўню;

9) сямейныя паездкі як кансалідацыя сям’і;

10) сацыяльнае ўзаемадзеянне – магчымасць сустрэч, зносін са знаёмымі, сябрамі, блізкімі;

11) самасцвярджэнне – культурная і нацыянальная ідэнтыфікацыя, выяўленне культурна-творчага патэнцыялу, сэнсу жыцця і г.д.;

12) прэстыж – сімвалічная каштоўнасць дэстынацыі і пацвярджэнне свайго высокага статусу.

## **Лекцыя 10.** Асаблівасці і элементы вытворчасці культурнага прадукту

*1. Турыстычнае ўражанне.*
*2. Інтэрпрэтацыя культурных аб’ектаў.*
*3. Аўтэнтычнасць культурнага прадукту.*
*4. Спосабы канструкцыявання культурнага прадукту.*

### *1. Турыстычнае ўражанне.*

У культурным турызме фармуецца, прадаецца, купляецца і спажываецца спецыфічны прадукт – уражанні. Турыстычныя ўражанні – сінтэз суб’ектыўнага эмацыянальнага і рацыянальнага ўспрыняцця і ацэнкі культурных аб’ектаў (дэстынацыі ў цэлым) у выніку знаёмства з імі, як праз сенсорныя магчымасці чалавека, так і атрыманнем другаснай інфармацыі праз гідаў, экскурсаводаў, перакладчыкаў.

- У культурным турызме ствараюцца і прадаюцца пачуцці, настроі, пазнанні, перакананні, якія ўзнікаюць у выніку ўзаемадзеяння з культурнымі помнікамі і аб’ектамі, а не інфармацыя.

- Вытворцы культурнага прадукту працуюць не столькі з рэсурсамі, колькі з сацыяльна-псіхалагічнымі матывамі спажыўцоў, прапануючы ім не тое, што ёсць, а тое, што з’яўляецца актуальным.

- Турыстаў хвалююць пераважна эмацыянальныя перажыванні.

- Эстэтычныя характарыстыкі аб'ектаў (візуальная інфармацыя) успрымаюцца як другасныя.

- Перавага аддаецца разуменню і фармаванню сваіх знакавых сэнсаў дэстынацыі над фактаграфіяй.

- Актывізацыя ролі турыстаў у якасці сувытворцаў ўражанняў.

- Культурны прадукт павінен забяспечваць інтэлектуальную і эмацыянальную дапушчальнасць культурных рэсурсаў, улічваючы пры гэтым культурны, псіхафізічны і сацыяльна-дэмаграфічны статус розных груп. Дасягаецца гэта шляхам інтэрпрэтацыі культурных аб'ектаў.

*2.Інтэрпрэтацыя культурных аб'ектаў* выконвае ролю «праваднікa» у арыентацыі турыстаў у «культурнай прасторы» мінулага і цяперашняга. Інфармаванне як частка інтэрпрэтацыі – папярэдняе знаёмства з аб'ектамі (дэстэнацыяй), агляд прапановаў для турыстаў (турыстычна-інфармацыйныя цэнтры: пуцяводнікі, схемы, карты, Інтэрнэт-сайты).

Прынцыпы інфармавання:

- Прыцягваць увагу і правакаваць думкі.
- Наладжваць эфектыўную сувязь з турыстамі, забяспечваць цікавай і камфортнай прываблівасцю.
- Фармаваць пачуцці перспектывы новых уражанняў.
- Задавальняць цікавасць.
- Структураваць дзейнасць турыстаў.

Інструменты інтэрпрэтацыі:

- «Асабістая інтэрпрэтацыя» (вуснае апавяданне спецыяліста, удзел у арганізаванай дзейнасці, удзел у прадстаўленнях інсцэніроўках, рэканструкцыях падзей).
- Інфармацыйныя стэнды (карты, схемы, тэксты – фактаграфія, каментары).
- Мадэліраванне (мадэлі, рэканструкцыі, дыярамы).
- Друкаваная прадукцыя (буклеты, праспекты, пуцяводнікі).
- Мультымедыя (аўдыявізуальныя і відэапраграмы, гукавыя і светлавыя рэканструкцыі, кампутарны інтэрактыў).

*3. Аўтэнтычнасць культурнага прадукту* выклікае жаданне ўбачыць і адчуць не падробку ці стылізацыю пад нешта, а сапраўднае,

натуральнае, істотнае – у гэтым рухаючая спружына культурнага турызму. У вызначэнні аўтэнтычнасці існуе некалькі падыходаў:

*Аб'ектыўна-абумоўленая аўтэнтычнасць:* аб'ектывісцкая – да аўтэнтычных адносяцца аб'екты, якія характарызуюцца «некранутасцю», арыгіналы (фальклор, храм, карціна) альбо натуральнага, «непаказнога» для турыстаў стылю паўсядзённага жыцця; канструктывісцкая – аўтэнтычнасць, якая уяўляе сабой «сацыяльную канструкцыю» рэальнасці, створаную на аснове сімвалічных вобразаў і значэнняў. Для гэтага выкарыстоўваюцца тэхналогіі асацыяцый (з вядомымі людзьмі, падзеямі і эпохамі, міфамі, героямі), стварэнне эмацыянальнай рэальнасці.

*Дзейна-абумоўленая аўтэнтычнасць, альбо экзыстэнцыянальная* – сапраўдныя перажыванні, пачуцці і эмоцыі турыста як вынік іх эмпірычнага досведу пазнання асобных аспектаў культуры дэстынацыі. Успрыняцце аўтэнтычнасці культурных аб'ектаў забяспечваецца ўласнай актыўнасцю і эмацыянальна-пачуццёвай захопленнасцю турыста, што адпавядае жаданнем знайсці «сябе сапраўднага» у «жывым» кантакце з аб'ектамі.

Аўтэнтычнасць у турызме складаецца з сапраўдных артэфактаў і забеспячэння сапраўдных уражанняў.

*Фактары ўспрыняцце аўтэнтычнасці:*

• Непасрэднасць кантакту з мясцовай культурай: чым больш выражана непасрэднасць кантакту, тым большае ўспрыняцце аўтэнтычнасці.

• Колькасць турыстаў: чым менш, тым больш аўтэнтычнымі становяцца ўражанні.

• Ступень незалежнасці турыста: чым большая незалежнасць, тым больш аўтэнтычнымі становяцца ўражанні.

• Ступень адпаведнасці ўражанняў стэрэатыпным уяўленням пра дэстынацыю: чым вышэйшае, тым большае ўспрыняцце аўтэнтычнасці.

• Узровень зацікаўленасці ў інтэлектуальна-пазнавальным працэсе: чым вышэйшы, тым большае ўспрыняцце аўтэнтычнасці.

*4.Спосабы канструкцыявання аўтэнтычнасці,* альбо як зрабіць (паказаць) культурны прадукт аўтэнтычным. Для гэтага неабходна выдзеліць базавыя атрыбуты праяўлення аўтэнтычнасці аб'екта і данесці гэтыя атрыбуты рознымі спосабамі да турыстаў.

Табл.3 Спосабы канструкцыявання аўтэнтычнасці

| Базавы атрыбут | Спосабы канструкцыявання |
|---|---|
| Аб'ектыўнасць | Дэманстрацыя помнікаў матэрыяльнай культуры ў арыгінале |
| Натуральнасць | Прапанова даіндустрыяльных культур |
| Самабытнасць | Прапанова сімвалічных вытокаў, нацыянальных і этнічных элементаў культуры (этнічныя кварталы) |
| Геаграфічная і культурна-гістарычная прастора | Асацыяцыі з вядомымі падзеямі, людзьмі, надуманымі героямі |
| Эмацыйная рэальнасць | Прапанова сапраўдных эмацыйных перажыванняў, выкарыстанне настальгіі, успамінаў, ажыўленне інтэрпрэтацыі мінулага і сапраўднага |
| Непасрэдны вопыт | Уражанні ад паўсядзённай дзейнасці ў мясцовым асяродку (праца, быт, адпачынак, кухня) |
| Удзел у святах | Прапанова кантакту з мясцовымі жыхарамі –носьбітамі традыцый і святаў і культурных каштоўнасцей |

## **Лекцыя 11.** Аналіз вытворчасці і стратэгія развіцця культурнага прадукту

*1. Аналіз вытворчасці культурнага турпрадукту.*
*2. Аналіз знешняга асяроддзя.*
*3. Сістэматызацыя культурнай дэстынацыі паводле SWOT-аналізу.*
*4. Стратэгія развіцця культурнага турпрадукту.*

*1. Сітуацыйны аналіз вытворчасці культурнага турпрадукту* можна разумець як інвентарызацыю рэсурсаў. Праводзіцца ён у двух кірунках: аналіз прадукту і аналіз знешняга асяроддзя на ўзроўнях макра- і мікраасяроддзя.

Аналіз прадукту накіраваны на інфармацыю, якая характарызуе:

1) Стан выкарыстання культурных рэсурсаў дэстынацыі альбо культурнага аб'екта ў разрэзе трох яго структурных частак – ядро прадукту (выгады і родавы прадукт), чакаемы і пашыраны прадукт;

2) Рэсурсны патэнцыял развіцця прадукту (фармаванне патэнцыяльнага прадукту).

*Аналіз ядра прадукту* – вызначэнне родавага прадукту абумоўлена наяўнасцю розных катэгорый турыстаў, з сваімі выгадамі і інтарэсамі.

У гэтым сэнсе родавы прадукт можа быць пададзены музыкальным фестывалем, выставай сучаснага мастацтва і гістарычным паркам (музей, культурна-гістарычны заказнік, тэатр). Задачай аналізу з'яўляецца выяўленне занятых у родавым прадукце культурных рэсурсаў і выяўленне усёй разнастайнасці невыкарыстаных рэсурсаў на прадмет патэнцыяльнага інтарэсу для турыстаў.

*Чакаемы прадукт* уяўляе сабой патрабаванні турыстаў да ўзроўню рэалізацыі родавага прадукту (паслугі ў нармальным жыццёзабеспячэнні і бяспекі турыстаў, адаптацыі культурнай інфармацыі).

*Пашыраны прадукт* прапаноўвае турыстам такія характарыстыкі прадукту, якія пераўзыходзяць мінімальны спажывецкі стандарт, як за кошт эксклюзіўных якасцей родавага прадукту (унікальнасць, аўтэнтычнасць), так і за кошт камфортнага яго выкарыстання (інтэрпрэтацыі і дадатковых опцый), што робіць прадукт больш разнастайным і што павышае задаволенасць турыстаў (апынуцца за кулісамі тэатра (цырку) пасля спектакля, пасля выставы наведаць майстэрню мастака).

Таб.4. Аналіз прадукту турыстычнага аб'екта

| **Узровень аналізу** | **Прадмет аналізу (прыкл. пазіцыі)** | **Характарыстыка-апісанне аб'ектаў (прыкл. пазіцыя)** | **Выгады** |
|---|---|---|---|
| Родавы прадукт паводле відаў культурных рэсурсаў | • Калекцыя<br>• Рэпертуар<br>• Гістар. і архітэкт. каштоўнасці<br>• Міфы і легенды<br>• Сувязь з гістарычнымі і творчымі асобамі, падзеямі<br>• Падзеі | Культ.-гістар. значнасць, выканаўчы ўзровень, імідж, рэпутацыя, ступень запатрабаванасці, арыентацыя на спецінтарэсы, ступень захаванасці, патрэба ў рэстаўрацыі / мадэрнізацыі, графік працы, фактычная і дапушчальная нагрузка для наведванняў | Ступень адпаведнасці прапанаваных выгодаў інтарэсам турыстаў |
| Чакаемы прадукт | 1.Асноўныя паслугі<br>2. Паслугі агульнага прызначэння<br>3. Стыль абслугі<br>4. Цана | Экскурсіі, канцэрты, лекцыі, культ. і забаўляльныя імпрэзы<br>Інфармацыйныя (указальнікі для арыентацыі)<br>Узровень кваліфікацыі, ветлівасць, дабразычлівасць<br>Даступнасць для розных катэгорый | |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Пашыраны прадукт | • Сувеніры<br>• Рэстараны<br>• «Закуліссе»<br>• Месцазнаходжанне<br>• Цана<br>• Прэзентацыя | Кнігі, дыскі, прадметы з лагатыпам (сумкі, майкі)<br>Сервісныя паслугі па забеспячэнні родавага прадукту<br>Навукова-даследчыя і вытворчыя майстэрні.Транспарт, аб'екты турінтарэсу, інфраструктура<br>Выкарыстанне дыферэнцыяцыі цэнаў. Формы захаплянальнасці турыстаў, сродкі прэзентацыі (СМІ, інтэрнэт, тэлефільм) | |
| Патэнцыяльны прадукт | Усе магчымыя кірункі пашырэння прадукту | Варыянты магчымасцей развіцця родавага прадукту | |

Пры аналізе неабходна звяртаць увагу на:

- выяўленне рыс унікальнасці аб'ектаў, што з'яўляецца наяўнасцю ўстойлівай канкурэнтнай перавагі ў прываблiваннi турыстаў;

- выяўленне ўнутраных і знешніх відаў рэсурсаў, якія характарызуюцца ўзаемадапаўняльнасцю ў павышэнні атракцыйнасці аб'екта: знешніх рэсурсаў, якія не адносіцца да дадзенага аб'екта, але знаходзяцца ў межах тэматычнай і тэрытарыяльнай дапушчальнасці; культурных падзей, якія маюць сувязі з дадзеным аб'ектам;

- выяўленне інфраструктурных знешніх рэсурсаў для забеспячэння сервісу  (стаянкі, гатэлі, матэлі, інфармцэнтры, магазіны, рэстараны, кухні).

## *2. Аналіз знешняга асяроддзя*

*Макраасяроддзе* – сукупнасць фактараў грамадскага развіцця, знешніх да турыстычных працэсаў, але ўплывовых на іх. Пры аналізе ўлічваюцца:

– Палітычныя і прававыя фактары (якія змены назіраюцца ў вонкавай і ўнутранай палітыцы дзяржавы ў адносінах да турыстычнай дзейнасці).

– Эканамічныя фактары (тэндэнцыі развіцця эканомікі і даходаў насельніцтва).

– Сацыяльныя фактары (чалавечыя каштоўнасці і абраны стыль жыцця турыстаў: куды, калі і з кім ехаць, сямейныя каштоўнасці, адпачынак, зарплата, прэстыж).

Таб. 5: аналіз прадукту для дэстынацыі

| **Узровень аналізу** | **Прадмет аналізу (прыкл. пазіцыі)** | **Характарыстыка-апісанне аб'ектаў (прыкл. пазіцыі)** | **Выгады** |
|---|---|---|---|
| Родавы прадукт павод-ле тыпаў культурн. помнікаў | •Гіст. мясціны (месцы баёў, мемарыяльн. комплексы, магільнікі)<br>• Помнікі архітэктуры, горадабуд.; археалогіі.<br>• Духоўная культура.<br>• Падзеі.<br>• Аб'екты культуры (музеі, галерэі, залы, тэатры паркі). | Колькасць і разнастайнасць<br>Узровень папулярнасці<br>Ступень уключанасці ў праграму.<br>Ступень арыентацыі на спецінтарэсы.<br>Наяўнасць прапаноў з удзелам турыстаў<br>Дапушчальнасць месцазнаходжання.<br>Межы прапускной здольнасці.<br>Патрэба ў рэстаўрацыі / мадэрнізацыі. Графік працы, пашырэнне прапаноў паслуг | Ступень адпа-ведн. пра-панаван выгодаў інтарэсам турыстаў |
| Чакаемы прадукт | • Сувеніры | Сувеніры, тэматычныя дэстынацыі рознай цэнавой катэгорыі | |
| | • Турпрадукты (туры) | Туры для агульнага знаёмства з дэстынацыяй | |
| | • Рэстараны | Разнастайнасць меню, цэнаў; выгады, прываблівасць, ветлівасць | |
| | • Сродкі размяшчэння | Разнастайнасць тыпаў, цэнаў, адпаведнасць чаканням, выгады, прываблівасць, ветлівасць | |
| | • Транспарт | Выгаднасць камунікацый, паркоўкі, сувязі з маршрутамі | |
| | • Іншыя паслугі | Даступнасць і камфортнасць сувязі з інш. установамі дэстынацыі (медыцына, міліцыя, імформцэнтры | |
| Пашыраны прадукт | • Жывая культура | Этнічныя кварталы, мясцовыя традыцыі, кухня, святы, кірмашы, народныя промыслы | |
| | • Забаўляльная сфера | Інфраструктура «начнога жыцця» (клубы, данс-холы, дыскатэкі) | |
| | • Прэзентацыя | Друк, інтэрнэт-сайты, тэлефільмы, віртуальныя экскурсіі | |
| | •Месцазнаходжанне | Тэматычныя тур. аб'екты паблізу дэстанацыі | |
| | • Іншыя паслугі | Магчымасць арэнды і рамонта аўто. Інш. | |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Пашыраны прадукт | •Сувеніры | Прапановы для турыстаў па спецінтарэсах | |
| | •Турпрадукты (туры) | Прапановы для турыстаў па спецінтарэсах | |
| | • Маляўнічасць | Планіроўка, стыль, вонкавы выгляд вуліц, публічнае мастацтва. Рэчкі, каналы, падсветка | |
| | • Сродкі размяшчэння | Гістарычныя дамы, палацы, буцік-атэль, інш. | |
| | • Рэстараны | Нацыянальная кухня, «высокая» кухня, тэматычная кухня (інтэр'еры) | |
| | • Гасціннасць, клапатлівасць | Месцы для адпачынку (сады, паркі, лавы, пераходы, інформ. паказальнікі, гатоўнасць дапамагчы, дабразычлівасць) | |

– Дэмаграфічныя фактары (пол, узрост, сямейны статус, нацыянальная прыналежнасць): якія дэмаграфічныя змены адбываюцца ў турыстычных рэгіёнах.

*Мікраасяроддзе дэстынацыі* – сукупнасць асобных знешніх суб'ектаў і з'яваў, якія аказваюць уплыў на фармаванне і рэалізацыю канкурэнтнай перавагі культурнай дэстынацыі (канкурэнтныя арганізацыі, пастаўшчыкі тавараў і паслугаў, грамадскасць і ўлады, інш.). Для аналізу канкурэнтаў можна выкарыстаць інфармацыйна-рэкламныя матэрыялы, пуцяводнікі, артыкулы ў друку, інтэрнэт-сайты, СМІ, водгукі турыстаў; наведаць канкурэнтаў і г.д.

### *3. Сістэматызацыя культурнай дэстынацыі паводле SWOT-аналізу*

Аналіз магчымасцей і пагроз складаюць аснову распрацоўкі стратэгічных захадаў у фармаванні канцэпцыі культурнага прадукту. SWOT – гэта акронім словаў Strengts (сілы), Weaknesses (слабасці), Opportunities (магчымасці) і Threats (пагрозы). Унутраныя фактары канцэнтрыруюцца у S і W, а знешнія – у O і T.

Таб. 6: матрыца SWOT-аналізу :

| | Станоўчыя фактары | Адмоўныя фактары |
|---|---|---|
| **Унутраныя фактары** | **Strengths** – вартасці (уласцівасці, якія даюць перавагу): інфарм. на ўсіх ўзроўнях турпрадукту, характарыстыка дэстынацыі, аб'екта, выгады, інфрастуктура, якасць, абслуга. (Назва горада, месца, аб'екта – унікальнасць, вядомасць і папулярнасць у свеце, наяўнасць аб'ектаў і з'яваў турінтарэсу (архітэктура, паркі, музеі, залы, падзеі, атракцыі), гасцініцы, кухня, крамы, сувеніры, антыкварыят, народныя промыслы, прырода, упарадкаваная інфрастуктура) | **Weaknesses** – слабасці (фактары, якія паніжаюць вартасці): адсутнасць аўтэнтычных аб'ектаў, кепскі стан аб'ектаў, устарэлыя праграмы, недастатковаць інфармац. забеспячэння, нядобразычлівасць, бедная забаўляльная інфрастуктура, адсутнасць сувенірнай прадукцыі і г.д. (Неафармленыя вітрыны крамаў, недастатковая асвечанасць вуліц, абмежаванасць «начнога жыцця»), адсутнасць знакавых падзей, няма «фішкі» месца, неразвітая інфрастуктура, нізкі прафесійны ўзровень). |
| **Знешнія фактары** | **Opportunities** – магчымасці (фактары, якія даюць датаковыя шансы для дасягнення мэты, задачы): наяўнасць блізкіх па тэматыцы родаваму прадукту аб'ектаў, выкарыстанне нонтэхналогій. (Арганізацыя тураў выхаднога дня, круізу, паходу, сустрэч з вядомымі людзьмі; рост цікавасці і ўвагі да развіцця народных промыслаў, арганізацыя крэатыву і г.д.) | **Threats** – пагрозы (фактары, якія могуць ускладніць працэс дасягнення мэты): пагрозы агульнага характару і спецыфічныя, эканамічныя, палітычныя, з боку канкурэнтаў, інш. (Рост цэнаў, візавая палітыка, канкурэнцыя, парушэнне экалогіі, будаўніцтва індустрыяльнага прадпрыемства, загазаванасць, шум і інш.). |

Задачы аналізу:

1.Знайсці мэтавыя групы турыстаў, якія могуць быць задаволеныя наяўнасцю адпаведных турыстычных рэсурсаў.

2.Распрацоўка праграмы супрацьдзеяння пагрозам (прываблівыя аднаўленні, пашырэнне праграмы, паніжэнне кошту).

*4. Стратэгія развіцця культурнага турпрадукту* фармуецца з інфарацыйнай асновы SWOT-аналізу і суправаджаецца наступнымі пытаннямі:

- ✓ Што сабой уяўляе мэтавы рынак спажыўцоў?
- ✓ Якія культурныя прадукты будуць прадавацца?
- ✓ Па якой цане?
- ✓ Якія тэрыторыі будуць пастаўшчыкамі турыстаў?
- ✓ Як і чым прывабіць турыстаў сродкамі падачы турпрадукту?

Выбар базавай стратэгіі залежыць ад узроўню развіцця культурнага турпрадукту, сітуацыі на канкурэнтным рынку, транспартных магчымасцей і кошту. Другія стратэгіі таксама могуць рэалізавацца як дапаможныя ў мэтах задавальнення тым ці іншым аспектам турпрадукту.

Табліца 7. Асноўныя стратэгіі развіцця культурнага прадукту ў турызме

| **Аб'ект** | **Стратэгіі** | **Вынікі SWOT-аналізу** | **Прымяненне** |
|---|---|---|---|
| Спажывец турыст | Распрацоўка новых мэтавых рынкаў | Дэстынацыя мае «моцнае» ядро | Пошук сегментаў турыстаў, чые патрэбы дэстынацыя зможа задаволіць |
| Прадукт | 1.Дыферэнцыяцыя – пошук унікальнасці<br><br>2..Падмацаванне – развіццё пашыранага прадукту | Канкурэнцыя з дэстынацыямі<br><br>Наяўнасць моцных пазіцый і ўнікальнасці дазваляе канкурыраваць, але ёсць недахопы ў сервісу і рэалізацыі прапаноў | Дэманстрацыя ўнікальнасці здольнай уплываць на выбар<br><br>Развіццё пашыранага прадукту за кошт дадатковых паслуг (прадуктаў, якія больш поўна задавальняюць запыты і павышаюць камфортнасць) |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Цана | 1.Канкурэнтнае цэнаўтварэнне<br><br>2.Прэстыжнае цэнаўтварэнне<br><br>3.Сінхрацэна-ўтварэнне | Больш моцны канкурэнт з аналагічным прадуктам і выгадамі<br>Наяўнасць прадуктаў высокай якасці і ўнікальнасці<br>Сезоннасць попыту і профіль «несезона» (працягласць і глыбіня спаду) | Паніжэнне цэн на прадукт<br><br>Высокая цана як знак якасці і эксклюзіўнасці<br><br>Рэклама перыядычных скідак (несезон вызначае памеры і час) |

## Пытанні для самаправеркі

*1. На якіх узроўнях фармуецца культурны прадукт.*

*2. Дайце характарыстыку мадэлі шматузроўневага прадукту.*

*3. Што трэба ўлічваць пры фармаванні тура ці комплекснага культурнага турпрадукту.*

*4. Што трэба ўлічваць пры фармаванні прадукту на ўзроўні аддзельнага культурнага помніка.*

*5. Якія фактары характэрны культурнай матывацыі?*

*6. Што такое турыстычнае ўражанне? Якія ўмовы неабходны для яго стварэння?*

*7. Якую ролю выконвае інтэрпрэтацыя культурных аб'ектаў?*

*8. Назавіце і прааналізуйце асноўныя прынцыпы інфармавання.*

*9. Якія інструменты і падыходы выкарыстоўваюцца пры інтэрпрэтацыі?*

*10.Што такое аўтэнтычнасць культурнага прадукту? Прывядзіце прыклады.*

*11.Ахарактарызуйце аб'ектыўна-абумоўленую аўтэнтычнасць.*

*12.Дайце характарыстыку дзейна-абумоўленай аўтэнтычнасці, альбо экзыстэнцыянальнай.*

*13.Якія фактары ўплываюць на ўспрыняцце аўтэнтычнасці?*

*14.Прааналізуйце спосабы канструкцыявання аўтэнтычнасці.*

*15.Што такое сітуацыйны аналіз вытворчасці культурнага турпрадукту?*

*16.Дайце характарыстыку аналізу турпрадукту?*

*17.На што неабходна звярнуць увагу пры аналізе прадукту турыстычнага аб'екта?*

*18.Правядзіце аналіз прадукту турыстычнага аб'екта (на выбар).*

*19.Дайце характарыстыку аналізу прадукту для дэстынацыі.*

*20.Якія фактары неабходна ўлічваць пры аналізе знешняга асяроддзя?*

*21.Дайце характарыстыку такім паняткам як макраасяроддзе і мікраасяроддзе дэстынацыі.*

*22.Паводле якіх крытэрыяў праводзіцца сістэматызацыя культурнай дэстынацыі па SWOT-аналізу?*

*23.Што з'яўляецца асновай для фармавання стратэгіі развіцця культурнага турпрадукту?*

*24.Дайце характарыстыку асноўных стратэгій развіцця культурнага прадукту ў турызме.*

*25.Распрацуйце стратэгіі развіцця культурнага прадукту ў турызме на канкрэтных прыкладах дэстынацыі.*

# Тэма 5. Рынак культурнага турызму

## **Лекцыя 12.** Сегментацыя рынку культурнага турызму

*1.Фармаванне канкурэнтназдольнага прадукту.*

*2. Крытэрыі сегментацыі рынку спажыўцоў.*

*3. Сегменты па маштабах культурнай дзейнасці.*

*4. Сегментацыя культурных турыстаў па выгодах.*

*5. Псіхаграфічная сегментацыя турыстаў.*

*6. Сацыядэмаграфічная сегментацыя турыстаў.*

***1.Фармаванне канкурэнтназдольнага прадукту*** ажыццяўляецца на падставе абгрунтаванняў стратэгічнага выбару: сегментацыі рынку, выбару мэтавага рынку, стратэгіі ахопу рынку, стратэгіі пазіцыявання прадукту.

Для гэтага неабходна правесці

- *сегментацыю рынку* – вызначыць сукупнасць спажыўцоў (сегментаў), якія аднолькава ўспрымаюць якасці прадукту і стымулы маркетынгу (цана, стратэгія, сродкі дастаўкі і рэкламы). Г. зн вызначыць патрэбы і падзел рынку паводле сегментаў спажыўцоў, якія будуць характарызавацца падобнымі інтарэсамі і матывамі, культурным капіталам, псіхафізічнымі магчымасцямі, стылем удзелу ў знаёмстве з культурай. Сегментацыя выконвае важныя аналітычныя функцыі: выяўляе ступень аднароднасці попыту на рынку (да прыкладу, этнакультурнага турызму) і патрэбы розных групаў турыстаў; стратэгічную функцыю – з'яўляецца часткай стратэгічнага выбару і адыгрывае вырашальную ролю ў ім.

- *выбар мэтавага рынку* – вызначыць працэсы станаўлення аднаго альбо некалькі сегментаў, зацікаўленых у трансліруемых выгодах прадукту ў форме павышэння турыстычнай актыўнасці дадзенай дэстынацыі (культурнага аб'екта).

- *стратэгію ахопу рынку,* якая вызначаецца ў залежнасці ад складу сегментаў: недыферэнцаваная (агульная), канцэнтраваная (для аднаго сегмента) дыферэнцаваная (для розных):

Табл. 8. Стратэгію ахопу рынку

| Стратэгія ахопу рынку | Характар падачы | Прымяненне |
|---|---|---|
| Недыферэнцаваная | Зварот для ўсіх: агульнасць інтарэсаў, а не розніца | Рэклама горада ў СМІ як культурна-гістарычнай дэстынацыі |

